— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

20 ВЕРАСНЯ 1996 г. № 38 (3862) Кошт 2 500 руб.

## І СЛОВА КАМЕНЬ ТОЧЫЦЬ...

**Уладзімір НІСЦЮК: "Сёння па стаўленні ўлады да сродкаў масавай інфармацыі можна вызначыць ступень яе сумленнасці і прыстойнасці. Калі ўлада трымаецца дэмакратычных прынцыпаў, дэмакратычных поглядаў, яна ўсяляк будзе падтрымліваць газеты, часопісы, радыё і тэлебачанне, якія б палітычныя погляды яны ні спавядалі. І толькі людзі, якія баяцца праўды, прыбягаюць да ўціску сродкаў масавай інфармацыі шляхам уводу закамуфляванай цэнзуры, фінансавых абмежаванняў..."**

**5, 12**

## НЕ ГАНЯЙЦЕ ПА ХАЦЕ РОДНУЮ МАЦІ...

**Гутарка паміж пісьменнікамі і крытыкамі пра сучасны літаратурны працэс.**

**6—7**

## ВЫПРАБАВАННЕ

**Старонкі з аповесці "Яўсей-выбраннік" Леаніда ПРАКОПЧЫКА, у якой галоўны герой — двайнік Сталіна.**

**9, 12**

## СКАЗ ПРА ВАТНІК

**Яшчэ адна ананімная паэма 90-х гадоў.**

**13—14—15**

## ВЯЛІКІЯ ГАРАДЗЕНЦЫ

**Апанас ЦЫХУН: "Наш гарадзенскі край, як ніякі іншы, можа ганарыцца сваімі дочкамі і сынамі як у мінулы перыяд гісторыі, так і ў сучасны. У часы Вялікага княства Літоўскага асаблівай увагі заслугоўваюць нашыя былыя гарадзенскія князі — Вітаўт Вялікі і Давыд Гарадзенскі".**

**16**

# "...ХТО НЕ ВЕДАЕ НАШ КУПАЛАЎСКІ"

*Беларускі артыст у Нью-Йорку зайшоў у крамку, нешта перапытаў і гаспадыня за прылаўкам звярнула ўвагу на яго акцэнт. "Адкуль вы?" — "З Беларусі, з былога СССР". Далей дыялог займеў нечаканую паваротку: "Дык з Мінска? А вы не артыст?" — "?!" — "Дык я вас на сцэне бачыла — ў Купалаўскім тэатры! Ат, ну хто не ведае наш Купалаўскі! А як там Станюта? А ці працуе яшчэ Тарасаў? А Аўсяннікаў? А ваша прозвішча як? Кін-Камінскі? Малады чалавек, я яшчэ бацьку вашага на сцэне памятаю!"*

*...Ну, хто не ведае наш Купалаўскі? Уладальніца крамкі, як выявілася, былая доктарка з Бабруйска падчас заняткаў у Інстытуце павышэння кваліфікацыі бавіла вечары менавіта там, — у тэатры... Дык хто яго яшчэ не ведае, наш Купалаўскі?*

*Працяг расповяду пра амерыканскія прыгоды артыста Кін-Камінскага чытайце на старонцы 11, а тым, хто тэатр ведае, і тым, хто ведае не так добра, паведамляем, што якраз сёння, 20 верасня, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы адкрывае сезон.*

*На здымках: сцэны са спектакляў "Гаральд і Мод"; "Тутэйшыя" і "Ромул Вялікі".*
*Фота А. Дзмітрыева і В. Стралкоўскага.*









# КОЛА ДЗЁН

***Цікавыя рэчы творацца ў нашай дзяржаве. Яшчэ дакладна невядома, якія пытанні будуць на рэферэндуме, калі ён будзе і ці будзе наогул, а тэлебачанне і радыё ўжо крычаць на ўсю краіну: “Рэферэндум — будучыня ў тваіх руках”, а па Мінску ўжо вісяць “расцяжкі”: “За референдум 7 ноября”. І ніхто з вернай “вертыкалі” і “чэсных” журналістаў не задумаецца: “Навошта ж мы гэта робім?” і “Як мы будзем глядзець у вочы людзям, калі заўтра сам прэзідэнт перадумае і адмовіцца ад рэферэндуму?”***

## ЧАЛАВЕК ТЫДНЯ

Гэтая намінацыя “Кола дзён” была рэдкаю госцяю ў нас, а апошнім часам і зусім забылася. Не было Учынкаў, не было і Асоб. На пачатку верасня сярод беларускіх палітыкаў імкліва вылучыўся лідэр — Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі. Менавіта яговыя рашучасць, прынцыповасць і, што казаць, грамадзянская смеласць адыгралі не апошнюю ролю ва ўтварэнні “круглага стала”, у яднанні антыпрэзідэнцкай кааліцыі. Ну а потым была знакамітая публікацыя ў “Народнай волі”... Сямён Георгіевіч стрываў патокі лаянкі і бруду, што абрынулі на яго “зашчытнікі” Лукашэнкі ад Замяталіна да Жырыноўскага і на чарговым пасяджэнні парламента зрабіў яшчэ адзін рашучы і мужны крок: прапанаваў унесці на разгляд сесіі пытанне... аб даверы Старшыні Вярхоўнага Савета. Дэпутаты ацанілі мужнасць С.Шарэцкага і сталі на яго абарону, чым ускосна далі зразумець свету, што падтрымліваюць асноўную ідэю звароту Старшыні ВС да беларускага народа аб пагрозе перамогі сілаў фашызму ў нашай краіне.

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Газета “Свабода” (17 верасня г.г.) надрукавала інфармацыю, якую атрымала ад былога міністра абароны Беларусі Паўла Казлоўскага. Сенсацыйнасць яе не ў тым, што нейкія “ўмельцы” наведаліся ў кватэру генерала і ў яговым рабочым кабінеце ў тэлефоннай разетцы паставілі “жучок” для падслухоўвання размоў. Гэта не дзіва. Сенсацыйнасць у тым, што яшчэ адзін былы “сілавы” міністр, якога спачатку паставіў, а потым адставіў Лукашэнка, вымушаны друкавацца ў недзяржаўнай, апазіцыйнай прэсе. Больш таго — у “Свабодзе”, якую некалі гэтак неўзлюбіў...

## “САВЕТЧЫКІ” ТЫДНЯ

Прэзідэнту Беларусі зараз вельмі важна, каб яго не толькі Замяталін ды Посахаў упэўнівалі, што ён ідзе “вернай дарогай”. І таму на мінулым тыдні ён запрасіў да сябе былых цэкоўскіх кіраўнікоў Беларусі. Спачатку прэзідэнт паведаміў прысутным — М. Дземянцею, В. Кебічу, Я. Сакалову, А. Камаю, А. Малафееву, У. Грыгор'еву, Н. Сняжковай ды іншым, што ён на Беларусі толькі дабудоўвае тое, што яны не паспелі пабудаваць, а потым выслухаў парады былых камуністычных лідэраў, як жа яму дабудаваць тое, што яны не паспелі пабудаваць. Словам, размова была канструктыўнай і дзелавой, а галоўнае — працякала ў рэчышчы “пазітыўнай крытыкі”.

## ДЗІВА ТЫДНЯ

Адразу за інфармацыяй пра сустрэчу А.Лукашэнкі з былымі галоўнымі камуністамі Беларусі, на якой ён паабяцаў і далей будаваць у рэспубліцы сацыялізм, “Панарама” БТ паведаміла пра прэс-канферэнцыю, якую наладзілі распрацоўшчыкі новай аграрнай рэформы. Ад імя ўрада дакладваў міністр сельскай гаспадаркі В.Лявонаў. З яговых слоў вынікала, што калі і ёсць у гэтай канцэпцыі рэформы сацыялізм, дык толькі рынкавы. Бо рэформа прадугледжвае наяўнасць усіх форм уласнасці, у тым ліку і прыватную. Больш таго, ёсць у рэформе і... механізм ліквідацыі калгасаў. За такую аграрную рэформу, распрацаваную ўрадам, пэўна ж, не без ведама А.Лукашэнкі, абедзвюма рукамі прагаласуюць нават самыя зацятыя дэмакраты.

## ПРАПОРЦЫЯ ТЫДНЯ

Прэзідэнцкія газеты пачалі друкаваць, а радыё і тэле агучваць “меркаванні” народа наконт рэферэндуму. Праўда, як яны ні стараюцца, а “спушчаную” з прэзідэнцкай адміністрацыі прапорцыю — тры выступы “за” і адзін “супраць” — захаваць не могуць. Нешта вельмі мала знаходзіцца ў народзе прыхільнікаў прэзідэнцкага рэферэндуму. Затое з журналісцкай ды інтэлігенцкай браціі да мікрафона падпускаюцца толькі тыя, хто “за”, “за”, “за”,”за”...

## “МІРАТВОРЧАСЦЬ” ТЫДНЯ

На мінулым тыдні на Беларусь зачасцілі “міратворцы” з Расіі. Спачатку прыбыў генерал А.Лебедзь, які крыху прыўзняў вагу прэзідэнта Беларусі сваёю нібыта падтрымкай, потым — экс-дэпутат Дзярждумы К. Затулін, які намякнуў на неабходнасць паразумення між парламентам і прэзідэнтам і, нарэшце, прыехаў лідэр расійскіх камуністаў Г.Зюганаў... Што дадуць усе гэтыя візіты, будзе бачна ў бліжэйшай будучыні, але чырвоная аднабаковасць “міратворцаў” відавочная, афіцыйны ж Крэмль пакуль захоўвае нейтралітэт, што на справе азначае зусім не падтрымку А. Лукашэнкі.

## ЧУТКА ТЫДНЯ

Радыё “Свабода” паведаміла, што прэзідэнт Беларусі думае ў бліжэйшы час увесці ў краіне нацыянальную валюту. Тыя “рубелі”, якія былі надрукаваны яшчэ пры Кебічы—Шушкевічы. Герб “Пагоня” на грашах будзе заклейвацца нейкай спецыяльнай маркай (ці не той, з партрэтам першага ўсенародна абранага, што нядаўна выйшла?). Афіцыйныя крыніцы гэтую інфармацыю пакуль не пацвердзілі. Але, па-першае, дыму без агню не бывае; па-другое, надта ж ужо нізка ўпаў “зайчык”; па-трэцяе, прыклад Украіны ва ўсіх на слыху: а чым мы горш?

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

5 гадоў таму, 19 верасня 1991 года, упершыню ў залу пасяджэнняў ВС Беларусі быў унесены бел-чырвона-белы сцяг. І ў той жа вечар дэпутаты адмянілі старую сімволіку і прызналі дзяржаўнымі сімваламі незалежнай Беларусі герб “Пагоня” і бел-чырвона-белы сцяг... Цяпер кажуць: адбылося тое зарана, не быў гатовы беларускі народ да прызнання гістарычнай сімволікі дзяржаўнай... Не, не зарана. Бо за тыя нядаўнія тры з паловай гады герб “Пагоня” і бел-чырвона-белы сцяг сталі роднымі мільёнам беларусаў, якія пры любых варунках упэўнены: гістарычныя сімвалы абавязкова будуць вернуты народу. Абавязкова.



Парламент

# СПІКЕРУ ВЫКАЗАНЫ ДАВЕР

Гэта быў варты жалю пікет. На тратуары ля Чырвонага касцёла стаяла восем ці дзесяць зсінелых ад холаду старых людзей з плакатамі ў руках: “Руки прочь от Беларуси и ее президента!”, “Кто вы, члены коммунистической и аграрной фракции парламента — левые или правые?”... Пакуль арганізатар пікетавання сакратар ЦК ПКБ Віктар Чыкін (яго мажная постаць узвышалася над пікетчыкамі) вырашаў са сваім войскам гэтае жыццёва важнае пытанне, у Авальнай зале парламента з удзелам леваправых ці правалевых камуністаў і аграрыяў разгортваліся досыць драматычныя падзеі...

Пачалося пасяджэнне з уступнага слова С. Шарэцкага. Ахарактарызаваўшы абстаноўку ў краіне і заклікаўшы парламентарыяў у гэты адказны, лёсавызначальны час звяраць свае ўчынкі з уласным сумленнем, грамадзянскім абавязкам, Сямён Георгіевіч раптам павярнуў гаворку ў, так бы мовіць, асабістае рэчышча, згадаўшы, што ў парламенце ідзе збор подпісаў дэпутатаў пад заявай аб адкліканні яго з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета, а таму ён ставіць пытанне аб даверы яму, і калі яго не атрымае, тут жа складзе з сябе паўнамоцтвы спікера.

Я не скажу, што паведамленне С.Шарэцкага прагучала ў Авальнай зале, як гром сярод яснага неба. “Грымець”, як вядома, пачало даўно. Можна сказаць, адразу пасля з'яўлення ў “Народнай волі” звароту Старшыні Вярхоўнага Савета да народа Беларусі, у якім ён, выказаўшы без усякіх дыпламатый нязгоду з палітыкай прэзідэнта, якая, на яго думку, мае мэтай устанаўленне ў краіне дыктатарскага, прафашысцкага рэжыму, як кажуць, спаліў за сабой масты. І калі па дзяржаўных сродках масавай інфармацыі прайшло паведамленне аб тым, што шэраг партый і грамадскіх рухаў звярнуліся да дэпутатаў ВС з заклікам скінуць С.Шарэцкага з яго пасады, было адразу зразумела, з чыйго блаславення гэта зроблена. Амаль адразу парламенцкая фракцыя “Згода”, якая ў значнай частцы складаецца з “вертыкальшчыкаў”, пачала збор подпісаў дэпутатаў за адлучэнне Сямёна Георгіевіча ад пасады.

Яшчэ да пачатку пленарнага пасяджэння ў прэс-цэнтры ВС цыркулявалі чуткі, што “зборшчыкам” удалося сабраць ці то семдзесят, ці то нават сто подпісаў, і лёс Шарэцкага вісіць на валаску...

Пасля згаданай заявы спікера яго першы намеснік В.Новікаў, які ўзяў на сябе старшынёўскія функцыі, прапанаваў дэпутатам выказаць свае адносіны да магчымай адстаўкі С. Шарэцкага. У Авальнай зале закіпелі страсці. Адразу кінуліся ў бой “згодаўцы” на чале з В.Кучынскім, заклікаўшы дэпутатаў пазбавіць С. Шарэцкага пасады Старшыні Вярхоўнага Савета. Не меншай, а мо і больш актыўнай была рэакцыя прыхільнікаў Сямёна Георгіевіча. С.Шушкевіч, М.Грыб, А.Клімаў, Ул.Нісцюк і многія іншыя горача заступіліся за яго, даводзячы, што змена “караула” ў Вярхоўным Савеце нічога, акрамя шкоды, не прынясе не толькі вышэйшаму органу заканадаўчай улады, а і ўсяму грамадству.

Зрэшты, згаданыя выступленні не былі нечаканымі. А вось зварот да дэпутатаў намесніка Старшыні ВС Ю.Малумава, аднаго з бліжэйшых паплечнікаў прэзідэнта, каардынатара яго палітыкі ў парламенце, фактычнага “куратара” фракцыі “Згода”, прагучаў сапраўды сенсацыйна. Спадар Малумаў пачаў угаворваць прысутных не ўзнімаць пытання аб адстаўцы Шарэцкага, бо той добра спраўляецца са сваімі абавязкамі і... — “давайте жить дружно”. Дзіўна было слухаць гэта, згадваючы апошнія выступленні сп. Малумава па тым жа тэлебачанні (там ён, у адрозненне ад іншых кіраўнікоў Вярхоўнага Савета, заўсёды жаданы госць)...

Тым часам, В.Новікаў унёс прапанову прагаласаваць за ўключэнне ў парадак дня пытання аб адстаўцы С.Шарэцкага.Табло высвечвае лічбы: за — 22 галасы, пераважная большасць — супраць.

Што ж адбылося? Чаму прэзідэнцкая ўлада і паслухмяная яе волі частка дэпутатаў адмовіліся ад свайго намеру “з'есці” аднаго з самых непрымірымых апанентаў спадара Лукашэнкі? Спалохаўшыся, што не набяруць патрэбнай колькасці галасоў нават з “падпісантамі”? Не сакрэт жа, што пры сустрэчах і гутарках з прэзідэнтам многія дэпутаты, засведчыўшы Аляксандру Рыгоравічу свае вернасць і адданасць, застаўшыся сам-насам з кнопкай для галасавання дзейнічалі насуперак дадзеным клятвам. Што ж, і такая версія мае права на існаванне. Але асабіста я схіляюся да іншай думкі. Мне падаецца, што ключ ад разгадкі трэба шукаць не ў Авальнай зале, нават не ў будынку на вуліцы Карла Маркса, дзе месціцца адміністрацыя прэзідэнта. Ён — у Крамлі, які раўніва сочыць за ўсім, што адбываецца ў Беларусі. Гэтым, безумоўна, і тлумачыцца нядаўні бліцваяж беларускага прэзідэнта ў “первопрестольную”, дзе ён, як сведчаць досыць кампетэнтныя крыніцы, меў гутаркі з В.Чарнамырдзіным і Я.Прымаковым. Паводле тых жа крыніц, сп. Лукашэнку яго суразмоўцы параілі не паглыбляць процістаяння ў беларускім грамадстве і наогул “не наломать дров”. Шмат размоў выклікаў і ваяж у Маскву намесніка спікера парламента, палітычнага антыпода сп. Лукашэнкі Г. Карпенкі, якому, як стала вядома, удалося сустрэцца з вельмі ўплывовымі асобамі з адміністрацыі прэзідэнта Б.Ельцына і паразумецца з імі. Нельга скідваць з рахунку і даўнія сяброўскія сувязі С.Шарэцкага са старшынёй Савета Федэрацыі Расіі Строевым, ды і высокі аўтарытэт беларускага спікера ў сталіцах некаторых краін далёкага замежжа таксама досыць важкая рэч. У кантэксце ўсіх гэтых фактаў, думаецца, і трэба разумець рашэнне прэзідэнцкай каманды не дамагацца зараз адстаўкі Старшыні Вярхоўнага Савета...

Варта яшчэ згадаць і выступленне на пасяджэнні старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара. Праінфармаваўшы дэпутатаў аб падрыхтоўцы да маючых адбыцца рэферэндуму і давыбараў дэпутатаў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы, Віктар Іосіфавіч адзначыў, што поўным ходам ідзе фарміраванне выбарчых камісій і іншых выбарчых структур. Цяжка пакуль што знаходзіць узаемаразуменне з выканаўчай уладай, прэзідэнцкай вертыкаллю.

Праблема з праблем — фінансаванне выбарчай кампаніі. З прадугледжаных дзяржаўным бюджэтам 19,6 мільярда рублёў Цэнтравыбаркам не атрымаў яшчэ ні капейкі. Чаму так адбываецца, міністр фінансаў рэспублікі П.Дзік, запрошаны на пасяджэнне, растлумачыць не змог. Пачуўшы, што невыкананне закона аб бюджэце пагражае пакараннем па адным з артыкулаў Крымінальнага кодэксу краіны і што старшыня Цэнтрвыбаркама ініцыіраваў гэтае пытанне ў Генеральнай пракуратуры, міністр нарэшце “раскололся”, працытаваўшы дасланае яму ўказанне прэзідэнта наступнага зместу: “Согласно обещания белорусскому народу на проведение референдума и довыборы депутатов не будет взято с бюджета ни одной копейки”. На міністра абрынуліся пытанні, ці лічыць ён законным, калі бюджэтам распараджаецца адзін чалавек, хай і прэзідэнт краіны? На пытанне аднаго з дэпутатаў, як спадар Дзік ставіцца да адкрыцця ў міністэрстве фінансаў па распараджэнні прэзідэнта спецыяльнага рахунка для падтрымкі правядзення 7 лістапада г.г. рэферэндуму, на які пераводзяць грошы некаторыя ўстановы і арганізацыі (як высветлілася, часта без дамоўленасці з працоўнымі калектывамі), міністр прызнаўся, што пра адкрыццё такога рахунка даведаўся са сродкаў масавай інфармацыі. Як партызан на допыце, маўчаў ён і калі ў яго спыталі, як фарміруюцца так званыя прэзідэнцкія фонды і ці не азначае гэта, што ў краіне існуюць два бюджэты, адным з якіх самаўласна распараджаецца сп.Лукашэнка?

Па прапанове шэрагу дэпутатаў Генеральнай пракуратуры было даручана правесці расследаванне па ўсіх гэтых фактах.

Прыйдзецца разбірацца Генеральнаму пракурору Васілю Капітану і з дасланым яму спікерам парламента лістом аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці па артыкуле 167 КК (перавышэнне службовых паўнамоцтваў) старшыні Белдзяржтэлерадыё Р.Кісяля. Апошняе асабіста мне нагадала славутае кітайскае тысячнае папярэджанне...

**Міхась ЗАМСКІ**

# НЕ АДДАМО!

## ЗВАРОТ ЛІЦЭІСТАЎ БЕЛАРУСКАГА ГУМАНІТАРНАГА ЛІЦЭЯ

Мы, навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэя, вымушаны звярнуцца да шырокай грамадскасці. Беларускі гуманітарны ліцэй існуе ўжо больш за пяць год. Настаўнікі яго даюць нам, навучэнцам, выдатную падрыхтоўку не толькі па агульных школьных прадметах. У ліцэі вывучаецца логіка і паліталогія, рэлігіязнаўства і філасофія. Акрамя таго, тут засвойваюцца спецкурсы па гісторыі культуры беларускай мовы, гісторыі беларускага мураванага дойлідства, этнаграфіі і фальклору, краязнаўства Беларусі. Мы маем магчымасць вывучаць другую і трэцюю замежныя мовы. Але самае галоўнае тое, што Беларускі гуманітарны ліцэй сапраўды беларускі, бо навучанне ў ім вядзецца на роднай мове.

І вось цяпер мы, ліцэісты, на самым пачатку навучальнага года даведваемся, што ў нас збіраюцца адабраць будынак ліцэя, на рамонт якога мы з году ў год ахвяруем уласныя грошы. Вядома, нас не выселяць проста на вуліцу, нам дадуць нейкі іншы будынак. Але ж, па-першае, ліцэй размешчаны ў цэнтры горада, і таму ўсім навучэнцам зручна да яго дабірацца, бо некаторыя жывуць нават у Радашковічах ці на Стаўбцоўшчыне. А, па-другое, — і гэта галоўнае, — будынак, з шырокай лесвіцай, маленькім ліцэйскім зімовым садам, з карціннай галерэяй (малюнкі навучэнцаў!) у ім, высокімі столямі... Тут усё такое роднае, блізкае. У кожны пакой, кожны куточак укладзены нашы душы і душы нашых настаўнікаў. І мы нікуды адсюль не хочам пераязджаць, бо гэта наш будынак. Мы выказваем рашучы пратэст супраць таго, каб яго адбіралі. Ліцэй бадай што адзіная навучальная ўстанова такога тыпу на Беларусі — чаму ж гэты будынак нельга пакінуць нам, на што ён некаму спатрэбіўся? Ды і ўвогуле, чаму наша дзяржава, якая ўсімі сродкамі павінна дапамагаць развіццю і станаўленню такіх установ, як ліцэй БГАКЦ, робіць для гэтага перашкоды? І гэты зварот мы накіроўваем не толькі на сваю карысць, але і на карысць наступных пакаленняў, на карысць дзяржавы, якая атрымае выдатных спецыялістаў у розных галінах навукі і культуры.

На Кірава, 21 — сапраўды жыве дух Alma mater, і мы, ліцэісты, не аддамо будынка ні ў якім разе, мы будзем за яго змагацца.

*Зварот прыняты на радзе ліцэістаў Беларускага гуманітарнага ліцэя 10 верасня 1996 г.*

**Зварот падпісалі 175 ліцэістаў.**

# І СЛОВА КАМЕНЬ ТОЧЫЦЬ...

КАРЭСПАНДЭНТ "ЛіМа" МІХАСЬ ЗАМСКІ ГУТАРЫЦЬ З НАМЕСНІКАМ СТАРШЫНІ КАМІСІІ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА, НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ПЫТАННЯХ, СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ, СУВЯЗІ З ГРАМАДСКІМІ АБ'ЯДНАННЯМІ І РЭЛІГІЙНЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УЛАДЗІМІРАМ НІСЦЮКОМ.

**У тым, што інфармацыйная прастора краіны амаль цалкам манапалізавана прэзідэнцкай камандай, не ў малой ступені, на маю думку, вінаваты Вярхоўны Савет і, у прыватнасці, ваша, Уладзімір Пятровіч, камісія, якая павінна стаяць на варце канстытуцыйных правоў і свабод чалавека. Прынамсі, права на аб'ектыўную інфармацыю. Вы мне можаце запярэчыць, што Вярхоўны Савет у свой час прыняў Закон аб друку, дзе гэтае права прадугледжана. Але, даруйце, аб закон гэты, фігуральна кажучы, многія выціраюць ногі...**

**У. Нісцюк.** Сёння па стаўленні ўлады да сродкаў масавай інфармацыі можна вызначыць ступень яе сумленнасці і прыстойнасці. Калі ўлада трымаецца дэмакратычных прынцыпаў, дэмакратычных поглядаў, яна ўсяляк будзе падтрымліваць газеты, часопісы, радыё і тэлебачанне, якія б палітычныя погляды яны ні спавядалі (пры ўмове, што яны не пярэчаць канстытуцыйным нормам). І толькі людзі, якія баяцца праўды, прыбягаюць да ўціску сродкаў масавай інфармацыі шляхам уводу закамуфляванай цэнзуры, фінансавых абмежаванняў, урэшце — подкупу журналістаў, а, не ў крыўду вам будзе сказана, прафесію журналіста часта называюць другой старажытнейшай...

**— Вартасць такіх чалавечых якасцей, як сумленне і прыстойнасць, параацаніць цяжка. Але ставіць толькі ў залежнасць ад іх захаванне дэмакратычных свабод?... Прэзідэнтамі Злучаных Штатаў Амерыкі былі людзі розных маральных якасцей, але нікому з іх і ў галаву не магла прыйсці думка закрыць газету, ці памяняць у ёй рэдактара, забараніць ёй нешта друкаваць. У гады прэзідэнцтва Трумэна адна з газет груба зняважыла яго дачку. Па апісаннях сучаснікаў, гаспадар Белага дома скрыгатаў зубамі ад злосці, пагражаючы журналісту выклікаць яго на дуэль. Скончылася гэтая гісторыя тым, што прэзідэнт падаў на газету ў суд. Больш нічога супраць сваіх крыўдзіцеляў ён прадпрыняць не мог: свабода слова, права чалавека без усялякіх абмежаванняў выкладаць свае думкі гарантаваны амерыканскай канстытуцыяй. Парушэнне канстытуцыі лічыцца там адным з самых цяжкіх злачынстваў. Што да права на свабоду слова, якое гарантавана канстытуцыямі ўсіх дэмакратычных краін, дык яго ў свой час з вычарпальнай яснасцю вызначыў Вальтэр: "Я гатовы аддаць жыццё за тое, каб мае ворагі мелі магчымасць свабодна выказваць свае думкі".**

— Я з вамі цалкам згодны. Але мы нясём такі груз нашага таталітарнага мінулага, што нам да згаданых вамі дэмакратычных свабод яшчэ ісці і ісці. Мы знаходзімся недзе на прамежкавай станцыі.

**М. Замскі. Вялікі праваднік пралетарскай рэвалюцыі Уладзімір Ільіч Ленін казаў, што захоп улады павінен пачынацца з захопу банкаў, вакзалаў, пошты і тэлеграфа. Думаю, што калі б ён жыў у наш час, дык бы адной з галоўных умоў утрымання і замацавання ўлады лічыў бы захоп сродкаў масавай інфармацыі. У першую чаргу самых масавых — радыё і тэлебачання.**

**Як бачым, гэта нядрэнна засвоіла і наша прэзідэнцкая ўлада, якая за два гады свайго існавання прыбрала да рук радыё і тэлебачанне, большасць дзяржаўных рэспубліканскіх газет, не кажучы ўжо пра раённую прэсу, якая цалкам корміцца з рук мясцовай выканаўчай улады.**

Адышлі ад грамадства, дзе існавала манаполія адной партыі на ўсё і ўся, але не дайшлі да прававой дэмакратычнай дзяржавы, пра неабходнасць стварэння якой гаворыцца ў нашай канстытуцыі. А пакуль што наша прэзідэнцкая ўлада дзейнічае ў адносінах да сродкаў масавай інфармацыі метадам пугі і перніка. Літаральна днямі я прысутнічаў на скліканай Беларускай асацыяцыяй журналістаў прэсканферэнцыі з нагоды спынення ўладамі дзейнасці адзінай у краіне недзяржаўнай беларускамоўнай радыёстанцыі 101,2. Заўважым, што карныя меры ў адносінах да яе былі ўжыты ў дзень апублікавання праекта новай рэдакцыі канстытуцыі, напярэдадні важных грамадска-палітычных падзей у жыцці дзяржавы — правядзення рэферэндуму, давыбараў у Вярхоўны Савет і інш.

**— Вы, відаць, заўважылі, што супрацоўнікі гэтай радыёстанцыі — спрэс маладыя хлопцы і дзяўчаты — прыйшлі на прэс-канферэнцыю з сабачымі намордзікамі на шыях. Лепшага сімвалу становішча, у якім сёння апынулася свабоднае слова, не прыдумаеш. Праўда, фармальна "Радыё 101,2", па якім, дарэчы, гучалі ліцэнзійныя праграмы замежных радыёстанцый "Нямецкая хваля", "Бі-Бі-Сі", "Польскае радыё", Міністэрства сувязі краіны тлумачыць чыста тэхнічнымі прычынамі. Нібыта згаданая радыёстанцыя стварала перашкоды ў эфіры.**

— Усё гэта падман. Успомніце, тэхнічнымі прычынамі ўлады тлумачылі ў свой час і скасаванне 8-га канала Беларускага тэлебачання, які, на самай справе, проста не ўпісаўся у прапагандысцкае поле прэзідэнцкай улады. Тое самае адбылося і з "Радыё 101,2", якое, дарэчы, за год з нечым свайго існавання не атрымала ад Міністэрства сувязі ні адной заўвагі, ніводнага папярэджання.

**— Ну пагаварылі, паабураліся, далей што?**

— Адразу пасля прэс-канферэнцыі мы абмеркавалі з работнікамі радыёстанцыі меры, якія трэба прыняць, каб аднавіць яе працу. Ад імя камісіі я накіраваў міністру сувязі рэспублікі ліст з патрабаваннем аб'ектыўна разабрацца ў гэтай справе. Акрамя гэтага, на бліжэйшым пленарным пасяджэнні парламента зраблю дэпутацкі запыт прэзідэнту адносна згаданага інцыдэнта.

**— Упэўнены, гэта нічога не дасць.**

— Чаму?

**— Прэзідэнт проста праігнаруе ваш запыт, а міністр зробіць тое, што яму скажуць у прэзідэнцкай адміністрацыі.**

— Але ж маўчаць нельга.

**— Маўчаць нельга, але ж спадар Лукашэнка забраў з-пад носа ў Вярхоўнага Савета "Народную газету", заснавальнікам якой з'яўляецца парламент, і вярнуць яе дасюль не ўдалося, нягледзячы на ўсе пратэсты дэпутатаў. Наогул, Вярхоўны Савет у гэтай справе выявіў поўную сваю бездапаможнасць. Здавалася ж, ужо і рашэнне дэпутатамі прынята аб прызначэнні на пасаду галоўнага рэдактара "НГ" Л. Юнчыка замест пастаўленага прэзідэнтам М. Шыманскага; мала таго, з той пастановай і Юнчыкам наменік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка наведаў рэдакцыю, каб аднавіць справядлівасць, але з усяго гэтага нічога не атрымалася. Аказваецца, пастанова аб прызначэнні Л. Юнчыка рэдактарам была нібыта складзена з парушэннем нейкіх юрыдычных нормаў, не быў указаны тэрмін уводу яе ў дзеянне. Не менш дзіўным з'яўляецца і той факт, што пытанне аб "Народнай газеце" нават не было ўключана ў парадак дня восеньскай сесіі ВС, якая пачала нядаўна сваю працу. Вырашылі спусціць усё на тармазах?**

— Тут ёсць пэўныя нюансы. Стварэнне прэзідэнтам акцыянернага таварыства на базе "Народнай газеты" было незаконным, бо выданне гэтае належала Вярхоўнаму Савету, і толькі ён меў права мяняць тут форму ўласнасці. Таму мы і вырашылі звярнуцца з гэтай справай ў Канстытуцыйны суд. У залежнасці ад яго рашэння пытанне аб "Народнай" будзе ўключана ў парадак дня бягучай сесіі.

**— Дык мо не трэба было спяшацца з прыняццем пастановы аб прызначэнні рэдактарам Юнчыка і зведваць у выніку такі здзек і паразу?**

— Калі гаварыць шчыра, Вярхоўны Савет (і 12-га склікання, і цяперашні) не праявіў дастатковай настойлівасці і прынцыповасці ў дачыненні да лёсу "Народнай газеты". Дэпутаты не адстаялі і першага рэдактара — Іосіфа Сярэдзіча і яго пераемніка Мікалая Галко, якіх неўзлюбіў прэзідэнт і зняў з пасад. Пэўная віна за ўсё гэта кладзецца, безумоўна, на нашу камісію, якой трэба было задоўга да акцыянавання газеты вырашаць пытанне з галоўным рэдактарам. Але старшыня камісіі Катляроў па нейкіх адному яму вядомых прычынах марудзіў з гэтай справай. Папярэджваючы магчымыя падазрэнні наконт таго, што я, робячы такую заяву, раблю нейкі "падкоп" пад крэсла свайго патрона, маю намер заняць яго месца, скажу абсалютна шчыра, — такога намеру не маю, але што Катляроў, член парламенцкай фракцыі камуністаў, успрымае дэмакратычныя правы і свабоды чалавека досыць своеасабліва, і таму многія пытанні вырашаць з ім вельмі складана.

**— Гэта той самы Катляроў, вучонысацыёлаг, які ў час прэзідэнцкай выбарчай кампаніі на падставе сацыялагічных апытанняў гарантаваў перамогу В. Кебічу?**

— Так, той самы.

**— Але ж у вашай камісіі, Уладзімір Пятровіч, як я ведаю, аж трынаццаць членаў. Да прыкладу, старшынёй падкамісіі па сродках масавай інфармацыі з'яўляецца Аляксандр Дабравольскі, адзін з кіраўнікоў парламенцкай фракцыі "Грамадзянская дзея", заснавальнік былой Аб'яднанай дэмакратычнай партыі. Так што пазіцыю камісіі можа вызначаць не адзін старшыня.**

— Так яно і адбываецца. Камісіяй былі распрацаваны змяненні і дапаўненні ў Закон аб друку, якія ставілі сваёй мэтай абмежаваць манапалізацыю прэзідэнцкай уладай інфармацыйнай прасторы краіны. Згаданыя дапаўненні былі прыняты Вярхоўным Саветам і былі накіраваны, згодна з працэдурай, на подпіс прэзідэнту. Як і можна было чакаць, спадар Лукашэнка наклаў на іх вета, якое, аднак, канстытуцыйнай большасцю дэпутатаў было адвергнута. Так што ўнесеныя ў Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі дапаўненні набылі законную сілу.

**— У чым сутнасць гэтых дапаўненняў?**

— Гэтаму можна было б прысвяціць асобную гутарку. Калі ж коратка, дык, да прыкладу, дзяржаўныя рэспубліканскія тэлерадыёарганізацыі павінны ў абавязковым парадку прадастаўляць эфір прадстаўнікам усіх галін улады, а не толькі прэзідэнцкай, як было дагэтуль.

**— Калі быў прыняты закон аб згаданых дапаўненнях?**

— У чэрвені гэтага года.

**— Даруйце, Уладзімір Пятровіч, але ж і цяпер, на восеньскай сесіі парламента, здаецца, ніводнае пасяджэнне не абыходзіцца без скаргаў на інфармацыйную блакаду многіх дэпутатаў. У першую чаргу тых, вядома, хто не дзьме ў прэзідэнцкую дуду. Падобныя пытанні задаваліся і спадару Лукашэнку ў час яго апошняга наведвання Вярхоўнага Савета ў пятніцу 6-га верасня. І пачулі ад яго толькі здзеклівае: маўляў, пытанне не да мяне, звяртайцеся да старшыні Белдзяржтэлерадыё Кісяля, ён вырашае. А той Кісель, усім вядома, без дазволу прэзідэнта і не чхне. Так што вашы "дапаўненні"...**

— Вы згадалі апошняе наведванне прэзідэнтам Вярхоўнага Савета. Я б не сказаў, што ён адчуваў там сябе пераможцам. А пагрозы, якія ён сыпаў у Авальную залу, гэта не ад сілы — ад слабасці. Многія апошнія пастановы парламента, асабліва тыя, што датычаць маючага адбыцца рэферэндуму, напалохалі спадара Лукашэнку.

**— Не суцяшайце сябе гэтым. Перамога на рэферэндуме амаль у яго ў кішэні.**

— Я трымаюся процілеглай думкі. Так, я з вамі гатоў пагадзіцца, што прапагандысцкую кампанію за галасы выбаршчыкаў дэмакратычныя сілы краіны прайграюць. Але ж шыла нават у моцна пашытым, так бы мовіць, "прапагандысцкім" мяху не схаваеш. "Шыла" гэтае — поўны занапад эканомікі, які яшчэ больш паглыбіўся за два гады лукашэнкаўскага прэзідэнцтва. Калі вы помніце, Аляксандр Рыгоравіч, заступаючы на высокую прэзідэнцкую пасаду, кляўся, што калі праз два гады сацыяльна-эканамічная абстаноўка ў краіне не палепшыцца, ён адразу зложыць з сябе свае абавязкі.

**— Дзе вы бачылі, каб чалавек, "вкусив от власти", добраахвотна ад яе адмовіўся?**

— Чаму ж. А Ніксан, які пад пагрозай імпічменту падаў у адстаўку...

**— Пра Ніксана я забыўся. Зрэшты, імпічмент яму пагражаў за, па сутнасці, неэтычны ўчынак. Калі б у нас за неэтычныя ўчынкі пазбаўлялі ўлады, на палітычным алімпе не засталося б ніводнага чалавека.**

— Але я працягну сваю думку. Фактычна ніводнае выбарчае абяцанне спадаром Лукашэнкам не выканана. У мяне быў намер прапанаваць парламенту прызначыць рэферэндум на 12 студзеня 1997 года. У гэты дзень споўніцца акурат палова тэрміну прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. І вельмі да месца было б папоўніць прапанаваны ім спіс пытанняў і такім: ці задаволены вы эканамічным і сацыяльна-палітычным становішчам у краіне?

А эканоміка ж церпіць поўны крах. Стаяць заводы, якія Аляксандр Рыгоравіч абяцаў "запусціць" адразу, як толькі стане прэзідэнтам. А на большасці тых прадпрыемстваў, якія пакуль працуюць, запазычанасць па зарплаце складае сёння адзін трыльён рублёў. Грошы браць няма адкуль. Дзяржаўны бюджэт недаатрымаў у гэтым годзе (падаткаў і іншых плацяжоў) больш як 4,5 трыльёна рублёў. 5,5 трыльёна закладзены ў дэфіцыт бюджэту. І пры такой дзіравай казне Аляксандр Лукашэнка збіраецца больш як 30 мільярдаў выдаткаваць на правядзенне рэферэндуму.

**— Але ж ён кажа, што не возьме на яго з бюджэту ні капейчыны. Звернецца да грамадзян, да калектываў прадпрыемстваў, каб яны ахвяравалі сродкі на той рэферэндум.**

— Чарговы падман. Выбары, рэферэндумы і іншыя падобныя мерапрыемствы патрабуюць удзелу тысяч і тысяч людзей для працы ў камісіях, складанні спісаў выбаршчыкаў, зверкі і праверкі іх; вялікія выдаткі сродкаў кладуцца на прадпрыемствы сувязі, транспарт і г.д.

**— Аляксандр Рыгоравіч запэўніў, што людзі будуць гэтым займацца бясплатна, у свой працоўны час.**

— Але ж гэта ўжо не бясплатна, бо будуць атрымліваць зарплату за нявыкананую працу, якой павінны займацца на сваіх рабочых месцах. Я не кажу ўжо, колькі каштуе папера, друкаванне ўлётках,

*(Працяг на стар. 12)*

## ГАЛОЎНЫ ГЕРОЙ — ПРЫРОДА

**Маецца на ўвазе зборнік М. Шаванды "У кожнага дрэва свой голас", выдаўцом якога стаў Міхась Расолька. Гэта ўжо другая кніжка галоўнага ляснічага Касцюковіцкага лясгаса. М. Шаванда ў свой час скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут і ўжо больш за дваццаць гадоў аддаў любімай прафесіі — службе лесу. Безумоўна, назапасілася нямала цікавых назіранняў, якімі ён і дзеліцца з чытачом. "Нататкі ляснічага" — такі падзагаловак мае гэтая кніжка, што гучыць яшчэ адным гімнам нашай Бацькаўшчыне, яе непаўторнай прыродзе.**

## "ПЕРШАЦВЕТ", N 8

**Проза прадстаўлена імёнамі В. Савуцінай, В. Колас, Т. Цвіркі, Р. Равякі. У раздзеле паэзіі выступаюць Ю. Матусевіч, М. Лагодзіч, П. Варахобін, В. Песенька, Н. Чарнейка, У. Гарачка, А. Дзітрых, Г. Каўшар. У "Гасцёўні" прапануюцца вершы з новай кнігі М. Мятліцкага "Бабчын" і ўрывак з рамана В. Галавача "Зладзеі ў законе".**

**Раздзел "Крытыка" — артыкул Ю. Дзейкалы "Пачатак "зыходу" (даваенны перыяд творчасці Р. Крушыны: вытокі і працяг), рэцэнзія Н. Кузьміч на кнігу М. Сазонава "Нараджэнне цішыні" (З болю і любові"), "заўвагі на палях" зборніка вершаў Т. Ляшонка "Запознены дар", зробленыя Т. Будовіч ("Аб набалелым песню напішу..."), развагі В. Смаля пра пошукі і здабыткі дзіцячай драматургіі ("Дар сінязоркі").**

**У "Семінары" слова даецца А. Кірвелю — "Пісаць — як казаць", а ў "Спадчыне" — творы І.Скурко (каментарыі і падрыхтоўка тэкстаў да друку Т. Барысюк).**

**Аб сустрэчах з Ю. Лявонным расказвае ва ўспамінах "Сшытак вершаў і нататка, альбо Сустрэча з паэтам" М. Ражкоў.**

## СТЫПЕНДЫІ ДЗЕЯЧАМ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА

**У 1994 годзе Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах захавання і развіцця культурнага патэнцыялу рэспублікі заснаваны дзяржаўныя стыпендыі дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі ў галіне літаратуры і журналістыкі, музыкі і харэаграфіі, тэатра і кіно, выяўленчага мастацтва, архітэктуры і дызайну. Стыпендыі прысуджаюцца пад выкананне пэўнага творчага праекта дзеячам культуры і мастацтва ва ўзросце звыш 40 гадоў у памеры 6 мінімальных заработных плат штомесячна, творчай моладзі ва ўзросце да 40 гадоў — у памеры 4-х мінімальных заработных плат штомесяна на працягу года.**

**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь аб'яўляе прыём заявак ад кандыдатаў на атрыманне дзяржаўных стыпендый на 1996 год. Для разгляду камісіі па прысуджэнню стыпендый неабходна прадаставіць наступныя дакументы:**

*1) заяву (прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, прафесія, адрас, тэлефон, назва праекта, этапы ажыццяўлення, тэрміны завяршэння, дата, подпіс);*

*2) рэкамендацыю творчага саюза, альбо рэкамендацыю за подпісам трох вядучых майстроў у дадзенай галіне дзейнасці;*

*3) творчую біяграфію;*

*4) спіс творчых прац і заслуг.*

**Дакументы прымаюцца ў Міністэрстве культуры да 20 кастрычніка 1996 г. па адрасе:**

*220617, г. Мінск, пр. Машэрава, 11, аддзел музычных устаноў і цыркаў. Даведкі па тэлефоне 223-74-12.*

*ЗА ГАРБАТАЙ У ШНІПОЎ*

***Самыя цікавыя размовы адбываюцца на канапе за кубкам гарбаты. Ідэя абнародавання "кулуарных", сяброўскіх размоў-спрэчак творчых людзей не новая. Захады падобныя рабіліся і на старонках "ЛіМа". А ў сённяшнім нумары ёсць заяўка распачаць пастаянную рубрыку, заснаваную на такіх публікацыях. Тым больш, што ёсць творчая сям'я, якая заўсёды можа прадаставіць сваю канапу, гарбату і гасціннасць філосафам, крытыкам і пісьменнікам, якіх салам не кармі, гарэлкай не паі — дай пагаварыць на літаратурныя і калялітаратурныя тэмы.***

***На канапе ў кватэры паэта Віктара Шніпа і паэтэсы Людмілы Рублеўскай, рэдактара аддзела крытыкі "ЛіМа" (якая, дарэчы,і "нясе адказнасць" за ўзнікненне такой рызыкоўнай ідэі) сабраліся літаратуразнаўца, загадчык кафедры славістыкі БДУ Іван Чарота, філосаф, супрацоўнік часопіса "Крыніца" і газеты "Культура", у якой вядзе літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО", Валянцін Акудовіч, малады крытык Ірына Шаўлякова і празаік Барыс Пятровіч. Зачэпкай для першай размовы стаў ліст без зваротнага адраса, атрыманы "ЛіМам", аўтар якога, відавочны дылетант у тэорыі літаратуры, рабіў закіды сучасным беларускім літаратарам у злоўжыванні "паўтарыцельным курсам", захапленні фарматворчасцю пры адсутнасці дастатковай распрацоўкі зместу, і, як вынік, другаснасці нашай літаратуры і лёгкасці ўпісаць сваё імя ў яе скрыжалі. Размова на канапе ў Шніпоў, зразумела, выйшла за межы абмеркавання злашчаснага ліста. Было закранута столькі праблем сучаснай літаратуры, што гаспадары не паспявалі мяняць касеты ў дыктафоне. Пад канец размовы, якая даўно ўжо перавысіла ліміт чыстых касет, адбылося абмеркаванне назвы нованароджанай рубрыкі.***

***Прапануем чытачу пазнаёміцца з поглядам на сучасную літаратуру з другога паверха, з канапы ў кватэры Шніпоў.***

# НЕ ГАНЯЙЦЕ ПА ХАЦЕ РОДНУЮ МАЦІ...

**Людміла Рублеўская.** Мне здаецца, што ў лісце ёсць намёк перш за ўсё на нашу беднасць, на адсутнасць адбору. Але ці не ёсць гэтая беднасць уяўная, ці не ёсць гэта наш комплекс правінцыйнасці?

**Іван Чарота.** Магу прывесці факт — хто хоча, няхай аналізуе. Гадоў шэсць таму на міжнароднай пісьменніцкай сустрэчы адбыўся вечар паэзіі "менш прызнаных літаратур" (так далікатна было сфармулявана). На гэтым вечары былі прачытаны пераклады вершаў Максіма Танка і Анатоля Сыса. Боль за дзесятак літаратур было там прадстаўлена, каля сарака літаратараў. Але пасля імпрэзы падыходзілі да мяне яе ўдзельнікі і з захапленнем казалі: "Няўжо яшчэ ў нейкага народа можа быць такая паэзія?"

**Валянцін Акудовіч.** І бедныя мы і не бедныя... Што тычыць выйсця на сусветны ўзровень — праблема ў тым, што рынкі захоплены. У Еўропе — найперш італьянскай, французскай і нямецкай літаратурамі. І не тое, каб літаратур іншых народаў там спецыяльна не хацелі заўважаць — гэта адбываецца аўтаматычна.

Беднасць наша сапраўды ў тым, што нас мала. Тая частка нацыі, з якой выходзяць літаратары і якую складаюць спажыўцы літаратуры, дзесятая частка мільёна... Так, у нас не запоўнены многія формы. І гэтая незапоўненасць — выдатная для творчага працэсу. Куды ні пойдзеш — усюды цалік, распрацоўвай.

**Віктар Шніп.** У нас многія пісьменнікі пайшлі з жыцця з адчуваннем, што яны ў літаратуры стварылі нешта непаўторнае, адметнае. І цяпер хоць мы і адзначаем іх юбілеі, але творы іх не перавыдаваліся і перавыдавацца, відаць, не будуць. І магчыма, цяпер, з пісьменнікаў, якім трыццаць — сорак гадоў, пачынаецца новая літаратура, у якой ёсць і эксперыменты, і традыцыя. Не ссякуць гэтыя парасткі сёння — разаўецца вялікая беларуская еўрапейская літаратура. А тое, што было, калі можна так сказаць, у большасці грунт, на якім расце новае. Аднак адны з нас стараюцца засвоіць усё, што было, другія адмаўляюць, не чытаючы. Я асабіста лічу: трэба ведаць усё, што было створана на той мове, на якой ты сам пішаш.

**Барыс Пятровіч.** Што тычыцца папрокаў у "паўтарыцельным курсе" нашай літаратуры... Думаю, найперш гэта закід да тых маладых пісьменнікаў, што спрабуюць пісаць "не так, як усе". Але Багдановіча ў свой час таксама папракалі ў фарматворчасці, дэкадэнцтве... Больш таго, можна сказаць, што пасля Бібліі — усё паўтарэнне. Паўтараюцца не толькі сюжэты, паўтараюцца агульнапрынятыя формы, жанры — раман, аповесць, апавяданне... Але чамусьці "чапляюцца" менавіта да пісьменнікаў-наватараў, шукаюць паўтарэнні ў іх творчасці. Хоць самі словы "наватар", "авангардыст", "мадэрніст" гавораць зусім пра іншае. І таму ва ўсе часы павінны былі аб'ядноўвацца ў суполкі не пісьменнікі-рэалісты, а наватары. Каб сцвердзіць сябе і даказваць сваю неабходнасць, проста магчымасць існавання ў літаратуры. Вось як "бумбамлітаўцы" цяпер...

**Валянцін Акудовіч.** Што ж, ідэалізаваць Багдановіча таксама не трэба. Паспешліва накont паўтарыцельнасці было ім сказана. Уся літаратура — паўтарыцельная. Адзін з грузінскіх паэтаў-рамантыкаў вярнуўся дадому пасля вучобы. Бацька-князь пытаецца: "Чым ты, сынок, думаеш займацца?" — "Ды так, бацька, пісаць буду". — "Ты што, сынок, здурнеў? Біблія напісана, "Віцязь у тыгровай скуры" напісаны... Што ты яшчэ хочаш напісаць?" І Дантэ паўтараў, і Шэкспір паўтараў... Блок неяк пра працэсы літаратуры сказаў прыкладна так: Эсхіл горшы за Дантэ, Эўрыпід за Эсхіла, Дантэ за Эўрыпіда, Сервантэс за Дантэ, Шэкспір за Сервантэса... Вось вам і прагрэс у літаратуры.

**Людміла Рублеўская.** Дарэчы, у адным з артыкулаў лімаўскага партфеля ёсць думка, шт недасканаласць нашай сучаснай літаратуры ў тым, што літаратары не маюць спецыяльнай літаратурнай адукацыі, як у свой час расійскія арыстакраты кола Пушкіна, калі на экзаменах трэба было чытаць свае оды, а ў нас няма ўласнага літінстытута, літаратурных курсаў, дзе б навучалі пісьменніцкаму рамяству, падобна таму, як балерыны адпрацоўваюць свае па, што няма ў літаратуры звязак настаўнік — вучань...

**Іван Чарота.** Ідэя стварэння ў нас такой установы насілася ў паветры. Але я скептычна да гэтага ставіўся і стаўлюся.

**Барыс Пятровіч.** Настаўніцтва не трэба адмаўляць — у добрым сэнсе... І шкада, што ў нас няма такіх традыцый. З гісторыі бачым, што часцей пісьменнікі падтрымлівалі "землякоў" і гадавалі графаманаў. А добрыя прыклады... Вось называюць Арлова вучнем Караткевіча. Але гэта відавочна ж не так.

**Валянцін Акудовіч.** У рускай літаратуры падобная ж сітуацыя, у адрозненне ад японскай, дзе без настаўніка ты проста не можаш з'явіцца і займець сваё месца ў літаратурным працэсе.

**Іван Чарота.** Хрэстаматыйны прыклад — Горкі і вучні. Цэлая плеяда, што кармілася з ягонай рукі. А што выйшла? Скажам, Фёдар Гладкоў, які кусаў за тую самую руку?

**Валянцін Акудовіч.** Настаўнік павінен хацець, каб вучань яго перарос.

**Людміла Рублеўская.** Вы бачылі такіх настаўнікаў сярод пісьменнікаў? У глыбіні душы ніхто так не думае.

**Барыс Пятровіч.** Найлепшымі настаўнікамі часцей былі не вядомыя літаратары, а проста высокаадукаваныя людзі...

**Людміла Рублеўская.** Павінны быць не настаўнікі, а, так бы мовіць, інстытут літаратурнага патрыяршаства.

**Ірына Шаўлякова.** Я ведаю, што сярод маіх равеснікаў тыя, хто хоць раз пагаварыў з Брылём, засталіся пад вялікім уражаннем. Я прачытала ў "Полымі" яго "З людзьмі і сам-насам" — мне плакаць хацелася ад усведамлення, што гэтаму чалавеку ўжо 80 гадоў. У пэўнай часткі дваццацігадовых ёсць адчуванне, што існуюць патрыярхі.

**Барыс Пятровіч.** Атрымліваецца, што ў нас няма не настаўнікаў, а вучняў...

**Ірына Шаўлякова.** Наконт гэтага хацелася б параўнаць дзве кнігі — ужо згаданую Брыля і "Аратай, які пасвіць аблокі" Барадуліна. І там, і там — рэфлексіі. Але якія розныя! У Барадуліна — думка, што маладыя не хочуць вучыцца, паўтараецца на кожным кроку. І выклікае не тую рэакцыю, на якую ён разлічваў. Можа, гэта ў мяне пазіцыя ўзросту — але сказаць моладзі "якія ж вы..." справа густу. Стварыўся стэрэатып: вось, маладыя не хочуць, маладыя адмаўляюць. А сярод іх цяпер шмат такіх, для каго традыцыя мае вялікае значэнне.

**Валянцін Акудовіч.** Да звязкі "настаўнік — патрыярх" я хацеў бы дадаць яшчэ адну катэгорыю, якая, мне здаецца, больш істотная, чым і настаўніцтва, і патрыяршаства, пра якую ў нас практычна не гаварылі. Гэта — арганізатар літаратуры ці, іначай, літаратурны менеджэр. Доўгі час такім арганізатарам у нас быў ідэалагічны апарат. Сёння такая катэгорыя людзей з'явілася: Дубавец, які арганізаваў спачатку "Тутэйшых", потым "Нашу ніву", цяпер — другую "Нашу ніву"; Алесь Аркуш, які стварыў таварыства вольных літаратараў, якое выпускае часопісы, кніжкі і г.д.; Алесь Масарэнка, хаця ён і са старой структуры, але з тых людзей, якія арганізоўваюць літаратурны працэс маладых. Пэўным чынам такая тэндэнцыя праяўляецца і ў Ігара Бабкова, магчыма, і ваш пакорлівы слуга мог бы сябе прылучыць да гэтай кагорты. Арганізатар нясе пэўную ідэалогію — не ў палітычным сэнсе. Крытык жа не фармуе літаратурны працэс. Ён можа яго толькі асэнсоўваць, аналізаваць.

**Іван ЧАРОТА.** Мне здаецца, адбылася пераакцэнтоўка. Не крытык упраўляе літаратурным працэсам, а крытыка ў сукупнасці. Расстаўляючы пэўныя арыенціры — хоча ці не хоча, ствараючы пэўную аксіялогію — гэта слабы твор, гэта моцны. Што тычыцца асоб, якія называліся, ёсць прэцэдэнты стварэння літаратурных асяродкаў, калі хочаце — груповак. А ў гэтым я бачу як станоўчае, так і адмоўнае. Аднойчы я дазволіў сабе дабрадушную рэпліку: калі Таварыства вольных літаратараў ладзіла вечарыну ў Нацыянальнай бібліятэцы, і давалі слова Алесю Разанаву — "нявольніку сярод вольных". Наколькі больш волі ў гэтага Алеся параўнальна, скажам, з другім Алесем — Аркушам, якому дэкляраваць вольнасць у шыльдзе — гульня. У вельмі значнай ступені.

**Ірына Шаўлякова.** У мяне з сабой, дарэчы, ёсць нумар "Литературной газеты", у якім дыскусія двух крытыкаў — Аляксея Варламава і Алега Паўлава. Адзін выводзіць тэорыю "масонскай змовы" крытыкаў. Расійская літаратура саслабла, крытыкі, якія ўступілі ў змову, прыдушылі яе, і цяпер дыктуюць сваю волю. А другі аўтар мякка пярэчыць, што ў тым, што літаратура саслабла, вінаватыя ўсё-ткі пісьменнікі...

**Іван Чарота.** Ёсць і тут прыклады. На памяці ўсіх, як эпахальным творам зрабілі "Дзяцей Арбата". А твора ж няма! Але тыраж узняўся на мільёны. Мне даводзілася ледзь не сварыцца з калегамі: няўжо вы не бачыце, што гэта слабы твор і ў ім няма таго, што яму прыпісваюць. Але не мог пераканаць — яны чыталі артыкулы, што ўхвалялі "Дзяцей Арбата" як эпахальны твор! І сёння, хацелі б мы ці не хацелі, але на пэўныя крытычныя выказванні і аўтарытэты чытач усё роўна абапіраецца. Ёсць такая статыстыка: з кожнай сотні твораў, што з'яўляюцца, толькі адзін можа пражыць дзесяць гадоў. Да абаронцаў ТВЛ я неаднойчы звяртаўся з пытаннем:

"Колькі год існуе групоўка? Назавіце адзін твор за ўсе гэтыя часы, які здольны пераважыць дзесяць гадоў?" Глухое маўчанне ў адказ.

**Валянцін Акудовіч.** Пытанне некарэктнае. Хто вызначае крытэрыі? А, можа, той твор яшчэ проста не напісаны.

**Іван Чарота.** З усіх кніжак, якія выдадзеныя, не маглі назваць?

**Валянцін Акудовіч.** Ведаеце, Іван Аляксеевіч, вось я, напрыклад, да Леры Сом асаблівай увагі раней не праяўляў. А вы, напэўна, і імя такога не чулі. Але я ведаю маладых людзей, якія амаль абагаўляюць яе.

**Іван Чарота.** Між тым увесь працэс дае нейкае адчуванне значнасці. Згадайма 60-я гады, Андрэя Вазнясенскага. Рэтраспектыўна гледзячы, бачым: слабыя творы. Але і ў канцы 60-х і ў 70-я столькі было курсавых, дыпломных прац па яго творчасці. Другі прыклад: з'яўляецца "Прощание с Матёрой" Распуціна — і адразу ўваходзіць у літаратурную свядомасць, у спадчыну...

**Валянцін Акудовіч**. Літаратура шасцідзесятых і наша сённяшняя літаратура — розныя рэчы. Сёння, калі дзесяць-пятнаццаць чалавек ведаюць адзін верш, гэта ўжо вядомасць...

**Барыс Пятровіч.** Чаму пра гэтыя праблемы не гаворыць літаратурная крытыка? Не называе творы, якія заслугоўваюць увагі? Калі меркаваць па крытыцы — дык ці ёсць сёння беларуская літаратура наогул?

**Людміла Рублеўская.** Крытыку ў нас часта блытаюць з літаратуразнаўствам. А гэта розныя рэчы. Пад рубрыкай "крытыка" друкуюцца навуковыя артыкулы або проста інфармацыя аб выхадзе той ці іншай кнігі.

**Ірына Шаўлякова.** Я цяпер раблю на "Радыё-два" сваю праграму, у якой спрабую адрэагаваць на тое, што з'яўляецца ў часопісах, на новыя кніжкі. Але як цяжка шукаць крытычныя матэрыялы на гэтыя творы! Заўважыла, што знайсці што-небудзь цікавае можна найперш у газетах. У часопісах жа, дзе крытыка, здавалася б, павінна быць сталай, няма нічога, што аператыўна і аб'ектыўна адгукалася б на творы.

**Барыс Пятровіч.** А на апошнім з'ездзе Саюза пісьменнікаў адзначылі, што ў саюзе больш за сто крытыкаў... Фактычна, кожны трэці сябар Саюза пісьменнікаў — крытык.

**Ірына Шаўлякова.** Чаму ўсе мае знаёмыя купляюць "Литературную газету"? Таму, што выйшаў новы раман, скажам, Пялевіна, адкрываеш "Литературку" — там дзве розныя думкі пра яго...

**Людміла Рублеўская.** Людзі ў нас не ўмеюць спрачацца, баяцца дыскусій.

**Іван Чарота.** Склалася так, што калі я думаю інакш, напрыклад, за Валянціна Акудовіча, нас ужо лічаць ворагамі. Гэта і правінцыйная традыцыя, і ўжо нацыянальная.

**Віктар Шніп.** Гэта гаворыць пра дэфіцыт выданняў. Трэба, каб у аўтара была магчымасць выбіраць, калі ў адным выданні друкуюцца адны думкі, а ў другім — супрацьлеглыя.

**Валянцін Акудовіч**. Выйсце сапраўды ў з'яўленні вялікай колькасці выданняў. Няхай яны нават канфліктуюць адно з адным, няхай будзе, па выразе Бабкова, "рытуальная злосць".

**Ірына Шаўлякова.** Я не злосная ў крытыцы, я пішу "па прыколу", іранічна. Мне цікава пачуць рэакцыю самога аўтара, а для гэтага варта і зачапіць.

**Людміла Рублеўская.** Але ж у аўтара яшчэ не выпрацавана адэкватная рэакцыя на такую зачэпку. Ён ведае: калі яго пакрытыкавалі на старонках друку, на яго абрынуліся ўсе, калі пахвалілі — усе хваляць.

**Віктар Шніп.** Недзе ў пачатку васьмідзесятых гадоў надрукавалі ў "Полымі" вялікую падборку маладых паэтаў. А ў "ЛіМе" іх усіх разбілі. І хутка, здаецца, у "Звяздзе" ці ў "ЛіМе" з'явіўся ліст-артыкул з подпісам амаль дзесятка вядомых пісьменнікаў, у якім абвяргаўся той крытычны матэрыял, і маладых літаратараў "вярталі ў стан таленавітых".

**Валянцін Акудовіч.** Хачу некалькі слоў сказаць пра некаторых з цяперашніх маладых, а менавіта пра "Бум-Бам-Літ". Карысць гэтай суполкі ў тым, што тут упершыню адбыўся працэс дэсакралізацыі інстытута патрыярхаў. Вы можаце ўявіць Івана Антонавіча Брыля ці таго ж Разанава, якія на сцэне Дома літаратараў грукаюць у тазік? І тут рэч не ва ўзросце, а ў пераасэнсаванні ролі літаратара.

**Людміла Рублеўская.** Я ўсё-ткі ўспрымаю гэта толькі як перыяд іх творчасці. Яны павінны з "Бум-Бам-Літа" натуральным чынам вырасці.

**Валянцін Акудовіч.** Я б да гэтага так адназначна не паставіўся. Хтосьці вырасце, але... Творчасць самакаштоўная ў той акцыі, у якой адбываецца. Калі яны потым будуць раманы пісаць, гэта таксама будзе каштоўна. Тазік — не балея, у якой купаюцца, а пасля з яе вырастаюць.

**Людміла Рублеўская.** Мне здаецца, гэтых аўтараў можна ўспрымаць толькі ў сукупнасці. А паасобку, кожнага, іх не ведаюць. Увогуле — я магу сказаць нешта пра іх творчасці. А паасобку яны як бы не існуюць. Можа быць, справа ў тым, што яны паставілі сябе ў межы "Бум-Бам-Літа", і калі было б не так — мы б ужо мелі некалькі імёнаў, а так — маем "Бум-Бам-Літ" увогуле з тазікам у якасці даха?

**Валянцін Акудовіч.** Каб не было "Бум-Бам-Літа" — было б нешта іншае. Бо сама прастора ўжо набрыняла новым.

**Іван Чарота.** "Бум-Бам" ёсць, а ці ёсць "Літ"? Тое, што "літ" — вымушае быць кожнаму паасобку. Але ці ёсць "літ"? Я не ўпэўнены. Дам паралель. У маёй вёсцы 50-х гадоў перад тым, як пачыналіся танцы, хлопцы-пярэстаркі, выпіўшы, скакалі, дурыліся і адыходзілі. Нармальныя танцы праходзілі без іх. Тыя хлопцы і не збіраліся танцаваць па-людску, альбо не ўмелі, альбо саромеліся. Разам з тым карцела паказаць сябе. Калі я гляджу на "Бум-Бам-літаўцаў", якраз пра гэта згадваю.

**Віктар Шніп.** Значыць, пасля грукату ў тазік павінна з'явіцца і сапраўдная музыка?

**Іван Чарота.** Павінна! А калі не? А раптам не яны будуць танцаваць? Яшчэ адна паралель бліжэйшага часу. У верасні 1970 года ў інтэрнаце БДУ на Паркавай была створана першая рок-група — "Лэдбэжэн" (што перакладаецца проста — лайдакі), студэнтамі філфака другога курса, ваш пакорлівы слуга ў іх ліку. Самі выдумлялі тэксты, музыку, аранжыроўкі — і для тазіка, і для каструлі, і для расчоскі. Гралі, спявалі, на ўвесь інтэрнат. Але на публіцы ніхто ніколі не адважваўся выступаць. І гэта ў пэўным сэнсе акт творчасці, самасцвярджэння. Але ў замкнёным коле. Сёння сярод "Бум-Бам-літаўцаў" ёсць аспіранты-літаратуразнаўцы, і, як мне падаецца, для іх ужо блізка тая мяжа, на якой яны павінны вызначыцца — ці развітанне з "Бум-Бам-літам" ці з тымі перспектывамі, якія яны сабе вызначылі ў якасці сур'ёзных навукоўцаў.

**Валянцін Акудовіч.** Адно другому не пярэчыць. "Землю попашет, попишет стихи..." Папрацуе з нейкай нагоды, потым прыйдзе, грукне ў тазік... У традыцыйнай літаратуры вылучыцца вельмі складана. Праз моўную эквілібрыстыку, эксцэнтрыку — хутчэй. А кагосьці традыцыйная літаратура проста не задавальняе.

**Барыс Пятровіч.** Добра было б, каб у той жа постмадэрнізм ішла моладзь, якая добра ведае традыцыйную літаратуру, прайшла ўсе ступені літаратурнага развіцця.

**Віктар Шніп**. Пачаць з чорнага квадрата — гэта прасцей простага.

**Людміла Рублеўская.** Як могуць узнікаць такія суполкі ўвогуле? Я бачу тры прычыны: ідэалагічна-палітычная, як у "Тутэйшых", або мясцовы фактар — па прыкмеце адзінства месца, як "Полацкая ляда", або суполкі маладых, якія яшчэ нічога не маюць у літаратуры і спадзяюцца ў сукупнасці нечым зрабіцца, абапіраючыся на эксперыментатарства.

**Валянцін Акудовіч**. Я б пагадзіўся часткова. Першы шлях — ідэалагічны, другі — прасторавы, трэці — эстэтычны шлях, і не выключаю яшчэ этычны — нейкая суполка ствараецца па агульнасці этычных поглядаў. Што можа стварыцца ў бліжэйшы час, для чаго наша культура ўжо выспела? Ну, калі б сшытак "ЗНО" ў газеце "Культура" закрылі б, я б стаў выпускаць часопіс "ЗНО-2", у якім любы постмадэрніст, любы авангардыст мог надрукаваць свае творы, і дзе б іх ацэньвалі не ў сістэме мер традыцыйнай літаратуры. Мог бы ўзнікнуць філасофскі часопіс, але прастора яшчэ не падрыхтаваная. А больш я, шчыра кажучы, не ведаю незапоўненых нішаў. А калі іх не бачна, значыць,у бліжэйшыя дзесяць гадоў з'яўленне прынцыпова новай суполкі мала верагоднае.

**Іван Чарота.** Што тычыцца тапаграфавання прасторы, тут я згаджаюся. Што тычыцца асаблівых мерак — не. З'яўляюся традыцыяналістам і лічу, што традыцыі выпрацаваны літаратурай за тысячагоддзі, і ацэньваць любую з'яву мы мусова будзем — хочам ці не хочам — згодна тых самых крытэрыяў, якія акрэсліваюцца іманентнымі, унутранымі законамі развіцця. Я думаю, што існуе універсальная сістэма, дзеля ацэнкі кожнай з'явы. У мінулым побач з рэалістычнымі было дастаткова зусім не рэалістычных твораў. Колькі таго ж сімвалізму, недасягальнага цяперашняму ўспрыманню, у "Слове аб палку Ігаравым", у летапісах, колькі там сімвалаў, якіх мы не можам расшыфраваць, зразумець, бо яны на тым узроўні сімволікі, успрыманне якой намі страчана. Я займаўся пытаннем авангарда літаратуры пачатку стагоддзя. І ў беларускай літаратуры ўслед за рускай былі такія спробы. Але яны скончыліся нічым. Бо матывацыя абсалютна разыходзілася з тымі прынцыпамі, якія патрабаваліся для адраджэння беларускай нацыянальнай літаратуры.

**Барыс Пятровіч.** На свой час аўтар "Слова аб палку Ігаравым" таксама быў авангардыстам. Як і Пушкін. І сучасны аўтару крытык мог бы так раскрытыкаваць "Слова аб палку Ігаравым" — каменя на камені не пакінуў бы... Паколькі літаратура пашыраецца, засвойвае новыя абсягі, павінна і крытыка пашырацца, шукаць, мець новыя крытэрыі і меркі.

**Ірына Шаўлякова.** На апошняй студэнцкай канферэнцыі ў БДУ на секцыі тэорыі літаратуры адбылася спрэчка. Я паспрабавала супрацьпаставіць тое, што новыя крытыкі англа-амерыканскай школы называюць акадэмічным літаратуразнаўствам, і новую крытыку. Бо гаварыць пра постмадэрнісцкі раман у крытэрыях акадэмічнага літаратуразнаўства ўсё роўна, што пра філасофскія катэгорыі — тэрмінамі кулінарнай кнігі. На што была зроблена заўвага: а што я маю на ўвазе пад акадэмічным літаратуразнаўствам? Новая крытыка за мяжой выкладаецца ва універсітэце, яе ўжо можна назваць для Англіі акадэмічнай. Проста для таго, каб чалавек мог успрыняць мастацтва постмадэрну, ён павінен умець абстрагавацца ад усяго свайго ранейшага вопыту.

**Людміла Рублеўская.** Усё-ткі існуюць вечныя катэгорыі, ад якіх ніхто не абстрагуецца: прыгожае — брыдкае, маральнае — амаральнае. Гэты момант мне цяжка ўсвядоміць у эстэтыцы постмадэрнізму. Такія катэгорыі павінны існаваць. Калі ад іх спрабуюць абстрагавацца, то адвяргаючы прыгожае, прыходзяць да непрыгожага, адвяргаючы маральнае — да амаральнага...

**Ірына Шаўлякова.** Гэтыя крытэрыі ўсё-ткі для кожнага індывідуальныя.

**Іван Чарота.** Мы зацыкліліся на наяўнасці стылёвых фармацый: абавязкова антыка, рэнесанс, класіцызм... Неабавязкова! Гэта тое самае, што патрабаваць ад кожнага чалавека, каб ён абавязкова прайшоў яслі, дзіцячы сад, пачатковую школу, сярэднюю, універсітэт, аспірантуру і крэматорый... Мы прынялі схему, а чамусьці не ставіцца пытанне, наколькі яна ў прынцыпе ўласцівая кожнай нацыянальнай літаратуры. Асабліва славянскім літаратурам, у якіх зусім іншыя заканамернасці развіцця. Калі мы прымаем гэтую схему, прымаем і тое, што існуюць літаратуры вядучыя і "вядомыя". Наконт гэтага давялося сварыцца нядаўна на маскоўскай міжнароднай канферэнцыі.... Для мяне няма такой класіфікацыі літаратур, культур. Культура або ёсць, або яе няма. Яна развіваецца толькі па ўнутраных законах і самадастатковая.

**Валянцін Акудовіч.** Вось цікавае пытанне: ці дастатковая наша літаратура для нас? Калі яна дастатковая для нас, мы, значыць, "впереди планеты всей". Таму што французы скардзяцца, што іх літаратуры ім недастаткова, усе скардзяцца, а нам хапае... Даганяйце нас...

**Іван Чарота.** А мы скардзімся больш за французаў, значыць, і тут мы наперадзе...

**Барыс Пятровіч.** Можна быць крытычным ці самакрытычным, але калі мы выходзім у свет, то павінны мець нешта за душой...

**Валянцін Акудовіч.** Літаратурныя імперыі хочуць панаваць над усімі. Французская літаратурная імперыя, расійская літаратурная імперыя.... Могуць уключыць у свой склад, але не дазволяць, каб, скажам, беларуская літаратурная імперыя ўзнікла.

**Іван Чарота.** Тут існуе несупадзенне дзвюх аксіалагічных сістэм. І бяда — самаадчуванне кожнай невялікай нацыі ў суіснаванні з вялікімі. У "Заканадаўчых" літаратурах — то Грэцыя, то Рым, то Германія, то Францыя, то Лацінская Амерыка. І меншым народам трэба разумна да гэтага ставіцца.

**Валянцін Акудовіч.** Чым імклівей развіваецца літаратура, тым бліжэй яна да смерці.

**Людміла Рублеўская.** Гэта значыць, што ў нас наперадзе яшчэ вялікая перспектыва?

**Іван Чарота.** Каб таго ж Максіма Танка мела нацыя "заканадаўчай" літаратуры, яго бачылі б зусім інакш.

**Валянцін Акудовіч.** Мяне неяк запыталіся: чаму беларусы не маюць пісьменніка — Нобелеўскага лаўрэата? Калі б Кузьма Чорны жыў у Францыі ў сярэдзіне стагоддзя, то пісьменнік з такім патэнцыялам, калі ці не кожнаму віднаму французскаму пісьменніку давалі Нобелеўскую прэмію, напэўна быў бы Нобелеўскім лаўрэатам. У свеце ведаюць Барбюса, Хемінгуэя, а Гарэцкага з яго "На імперыялістычнай вайне" нават беларусы ведаць не хочуць.

**Іван Чарота.** Мне нагадвае гэта такую сітуацыю... У вельмі багатага дырэктара саўгаса — шафёр. Саўгас — мільянер, дырэктар — уладар вобласці... Шафёр, нежанаты хлопец гадоў дваццаці пяці, жыве з маці. Вось ён ездзіць з гаспадаром, які п'е, балюе. А затым хлопец вяртаецца дахаты і маці сваю ганяе па хаце, б'е і крычыць: Ну чаму ты не дырэктар саўгаса?" І мы сваю літаратуру б'ём — "Чаму ты не еўрапейская?" Як аўтар ліста, з якога пачалася размова...

На гэтым гутарка за гарбатай у Шніпоў не скончылася. Скончыўся толькі гэты яе сканцэнтраваны пераказ. Удзельнікі літсалона дамовіліся сустракацца раз на месяц і на кожнае "пасяджэнне за гарбатай" запрашаць новага цікавага субяседніка.

Таму — да сустрэчы на старонках "ЛіМа".

*Адгалоскі*

# "І МЯНЕ ЗАБЛЫТАЛІ, І САМ Я ЗАБЛЫТАЎСЯ..."

Шаноўныя лімаўцы! Пішу гэты ліст з бальніцы, у якой знаходжуся з выпадку цяжкай хваробы. І так цяжка, балюча на душы, а тут яшчэ сёння ў паважаным штотыднёвіку "ЛіМ" мяне абразілі так, што месца сабе не знаходжу. Усё, што напісаў вам у рэдакцыю начальнік Дзяржаўнай геральдычнай службы з адміністрацыі Прэзідэнта РБ — перавернута з ног да галавы. Да ўдзелу ў конкурсе на апісанне сцяга і герба рэспублікі быў узяты верш мой "Сцяг рэспублікі", напісаны ў 1956 годзе, самімі "канкурсантамі", у прыватнасці, работнікам аддзела культуры Аляксандрам Віктаравічам Гурко. Яшчэ на пачатку гэтага года ён званіў мне нават у санаторый "Сосны" на Нарач, прасіў, каб я прадставіў свой тэкст. Я сказаў, што над вершам яшчэ трэба працаваць, у ранейшым варыянце ён не гадзіцца. Пасля вяртання ў Мінск мне зноў пазванілі на кватэру. З той жа адміністрацыі. Вось тут я, прызнаюся шчыра, зрабіў вялікую памылку, даў згоду ўключыць мой дапрацаваны верш для ўдзелу ў конкурсе пад дэвізам. Я нават не ведаў, якія ўмовы гэтага конкурсу і хто ў ім удзельнічае. Я імкнуўся палепшыць свой верш, выкарыстаў радкі з новых вершаў, якія пісаў раней на аб'яўлены конкурс для Гімна Рэспублікі Беларусь. Адным словам, і мяне заблыталі, і сам я заблытаўся. Сам сабе не магу дараваць, што паддаўся, як кажуць, "соблазну". Але крыху пазней я зразумеў сваю памылку і напісаў ліст таму ж Гурко А. В. аб тым, што я адмаўляюся ад удзелу ў конкурсе і ад прэміі і прашу не друкаваць маіх тэкстаў. Няўжо гэтага мала? Чаму спадар Л. Насевіч нічога не гаворыць пра гэты мой ліст?

Прашу "ЛіМ" надрукаваць гэты мой ліст, каб рэабілітаваць сябе і перад рэдакцыяй і перад чытачамі, якіх я ніколі не падводзіў ні ў чым ні ў творчай працы, ні ў сваёй грамадскай дзейнасці. Шкада, што рэдакцыя надрукавала ліст Л. Насевіча, не звязаўшыся са мною. Няўжо невядома, што адміністрацыя нашага Прэзідэнта і ўсе, што служаць ёй, ненавідзяць тых, хто адстойвае правы грамадзян на родную мову, здабыткі нацыянальнай культуры? Што я быў і ёсць і да канца застануся верным сынам сваёй Радзімы-Беларусі, за яе гатовы быў аддаць жыццё ў баях з ворагамі? Хай у гэтым не сумняваецца ніхто — ні мае блізкія, родныя людзі, ні чытачы, якім я падарыў дзесяткі сваіх чыстых, сумленных кніг.

Спадзяюся, што вы не пакінеце без увагі просьбу свайго даўняга аўтара, падпісчыка і былога супрацоўніка "ЛіМа".

**З глыбокай павагай**
**ваш Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

*14 верасня 1996 г.*
*Рэспубліканская бальніца*

**Ад рэдакцыі**

Мы, вядома, не маглі пакінуць без увагі просьбу Пятра Фёдаравіча і друкуем ягоны ліст. Хай чытачы ведаюць, што сітуацыя, звязаная з удзелам паэта ў непрэстыжным конкурсе, выглядае ўсё ж не зусім так, як падаў яе сп. Насевіч. Атрымаўшы ягоны ліст, мы некалькі дзён запар намагаліся звязацца з П. Прыходзькам, адшукаць яго хоць бы па тэлефоне. На жаль, зрабіць гэтага не ўдалося, Пятро Фёдаравіч, аказваецца, трапіў у бальніцу...

# ПРЫЗНАННЕ Ў ЛЮБОВІ

Адна са старэйшых беларускіх паэтэс Ганна Новік апошнім часам не шмат друкуецца, а ёсць жа ў яе творчых запасніках тое, што варта ўвагі. У гэтым пераконвае кніга Г.Новік "Мая Вілейшчына", якая пабачыла нядаўна свет. Каб з'явіўся гэты зборнік-споведзь, парупіўся генеральны дырэктар акцыянернага таварыства "Інтэрмаркет", дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь У.Варашнін, які фінансаваў выпуск кнігі, і выдавецкая група "Нэсі", што паклапацілася аб падрыхтоўцы рукапісу да друку. За радкамі твораў Г.Новік — няпросты шлях нашай сучасніцы, якая ніколі не заставалася ўбаку ад жыцця. Г.Новік, як вядома, удзельніца рэвалюцыйнага руху ў былой Заходняй Беларусі, партызанская сувязная ў гады Вялікай Айчыннай вайны, старшыня калгаса, затым сельсавета ў пасляваенны час. Перажытым яна і дзеліцца з чытачамі. А яшчэ Г.Новік прызнаецца ў любві роднай Вілейшчыне, і гэта надае яе творам светлы настрой...

## ПАМЯЦІ УЛАДЗІМІРА КАЛЕСНІКА



Мемарыяльная дошка памяці вядомага літаратара, крытыка, педагога прафесара Уладзіміра Андрэевіча Калесніка з'явілася на фасадзе дома N 10 па вуліцы Чапаева ў Брэсце, дзе ён доўгія гады жыў і тварыў. На адкрыццё памятнага знака сабраліся сапратнікі і вучні У.А.Калесніка, кіраўнікі вобласці і горада, жыхары, студэнты ВНУ.

*На здымку: выступае першы лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Калесніка крытык Уладзімір Гніламёдаў.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## УСЁ ПРА ЕЎРАПЕЙСКІЯ ДЭМАКРАТЫІ

Здаецца, Чэрчыль сказаў, што не ведае горшага дзяржаўнага ладу, чым дэмакратычны, але нічога лепшага чалавецтва не прыдумала. Пры ўсёй нібыта парадаксальнасці такога сцвярджэння, відавочна, што толькі дэмакратыя, дэмакратычныя інстытуты з'яўляюцца лепшым процілдзем таталітарызму з яго адмаўленнем правоў і свабод чалавека, ператварэннем яго ў вінцік бяздушнай дзяржаўнай машыны.

Дэмакратыя ў свеце мае даўнюю гісторыю, на працягу якой яна перажывала ўзлёты і падзенні, пагрозу быць знішчанай на корані. А наогул найбольш трывалыя традыцыі мае еўрапейская дэмакратыя, хоць і яе не абыходзілі і зараз не абыходзяць пэўныя супярэчнасці і канфлікты.

Тым, хто цікавіцца асаблівасцямі развіцця станаўлення еўрапейскіх дэмакратычных інстытутаў можна было б параіць пазнаёміцца з кнігай "Еўрапейскія дэмакратыі", якая нядаўна выйшла ў Беларусі. Яе аўтар Юрг Штайнер — прафесар паліталогіі універсітэта Паўночнай Караліны ў Чэйпэл Хіл (ЗША) і Бернскага універсітэта ў Швейцарыі, паставіў сваёй задачай глыбокае і дасканалае даследаванне еўрапейскіх палітычных інстытутаў.

Параўнаўчы падыход у выкладанні матэрыялу выходзіць за нацыянальныя і палітычныя межы і праводзіць аналогію паміж становішчам дэмакратыі ў Еўропе і Амерыцы.

У выданні даецца падрабязны аналіз палітычнага становішча як у краінах былога савецкага блока, так і ў Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі і Іспаніі. Аўтар кнігі прапануе глыбокі, параўнаўчы аналіз палітычных сістэм Заходняй і Усходняй Еўропы, якія там склаліся пасля распаду Савецкага Саюза, расказвае аб набытках дэмакратызацыі, нацыянальных і этнічных пытаннях, ролі Еўрапейскага саюза і кансацыяналізму.

Надзвычай шырокае кола праблем, закранутых аўтарам кнігі, можа засведчыць нават адно толькі пералічэнне раздзелаў і частак выдання. Скажам, у раздзеле "Парламенцкія выбарчыя сістэмы" аналізуюцца гэтыя сістэмы ў Вялікабрытаніі, Галандыі, Швейцарыі, Ірландыі, Францыі і Германіі. Раздзел "Судовы нагляд" дае прадстаўленне аб судовых інстытутах Англіі, Германіі і Швейцарыі. Не праміне чытач і раздзел "Дэмакратызацыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе", дзе даецца падрабязны палітычны аналіз станаўлення дэмакратычных сістэм пасля краху камуністычных рэжымаў у такіх краінах, як Венгрыя, Польшча, Чэхія, Румынія, Балгарыя, рэспубліках былога Савецкага Саюза.

Вялікую спажыву для розуму даюць і іншыя раздзелы кнігі. Адным словам, для палітолага - міжнародніка "Еўрапейскія дэмакратыі" могуць стаць незаменнай настольнай кнігай.

Застаецца толькі дадаць, што выйшла кніга ў серыі "Адкрытае грамадства", якое заснавана Беларускім фондам Сораса ў 1995 годзе. Пераклад з англійскай мовы на беларускую зрабіў І. Карпікаў. У ролі навуковага рэдактара выступіла Л. Чарнышова. Рэдактар выдання — К. Тарасаў.

М. З.

Паэзія

Эдуард ВАЛАСЕВІЧ



## З ЗАБЫТАГА ЗАСЕКА

●

Усё мацней зямное прыцягненне...
І долу хіліцца ўжо галава.
Жыццё мільгнула, бы адно імгненне!
Травінка зігне, будзе жыць трава.

Хай нараджаюцца для шчасця людзі,
І смех дзіцятка ўсё мацней гучыць.
Хай мір пануе, а вайны не будзе,
Хай сонца праўды над зямлёй гарыць!

Мяне ніхто не ўспомніць... і не трэба!
Як тых мільярды, што да нас жылі,
Рабы ці каралі былі...

Зямля пасцелькай ім, а дахам неба.
І я са тлену ўстаўшы, тленам стаў.
Я сонца бачыў — значыць існаваў.

*23.2.81*

●

З анёла днём віншую шчыра Вас!
Хай залаты лісток на плечы ападае...
Але над Вамі ўлады час не мае —
Як ружа Вы. Квітнейце ў добры час!

Над Вамі ураган вайны прайшоў суровы,
Шмат зведалі пакут, цяжкіх дарог...
Ды чуласць зберaглі у сэрцы і гатовы
Вы сонцам адарыць, якое даў Вам бог.

Хай кожны новы дзень
Вам радасць пасылае,
І здзейсняцца задумы, залатыя сны,
А подласць скрытая старонкай абмінае.

І восенню бываюць дні вясны,
У думках я лячу да Вас нязменна
І, спадзяюся, гэта узаемна.

*2. XI. 73*

●

О, рэўнасць! Ты шалёная стыхія!
Прыносіш нам бяду, нібы чума...
Губляюць розум дурні маладыя
Ды літасці і мудрацам няма...

Здаецца, любіш ты нязменна,
І дыхае каханая табой,
Але хапае іскаркі адной —
І выбух адбываецца імгненна!

І веры падаюць цвярдыні,
І сэрца гіне ад цяжкіх пакут,
І на зямлі няма ужо святыні,
І смерць жыццю выносіць свой прысуд.

О, рэўнасць! Хто цябе прыдумаць змог?
Каварны д'ябал ці магутны бог?

*27. X. 73*

●

Твая усмешка — зайчык залаты,
Смех — хвалі ўсплёск гуллівы і лагодны,
Русалкай казачнай здаешся ты,
То чайкай дзікаю стыхіі гэтай воднай.

І я гляджу на ўзмахі дужых рук,
На цела гнуткае, бліскучае ад солі,
Жанчына, сонца і прыбою гук —
Ці ж ёсць што прыгажэй на свеце болей?!

Мажліва,
крытык зморшчыцца скептычна:
"Хе-хе... Куды старога павяло...
Для байкара — наогул неэтычна!.."
Такому крытыку я адкажу назло:
Пакуль жыву і сонца нада мною —
Усё люблю прыгожае, зямное!

●

За сотні вёрст, бы ў казачным паданні,
Мяне з табою лёс гарэзны звёў.
І гэта выпадковае спатканне
Згадала нам Дняпро і Магілёў.

Бары імшыстыя, азёры і крыніцы,
І мілагучную тубыльцаў гаману.
Бацькоўскі кут, які заўсёды сніцца,
І ў родную нас вабіць старану.

Дык не губляй жа веры і надзеі
І ўбачыш ты, мая зямлячка, зноў,
Насуперак вірлівым ліхавеям,
Хаціну матчыну, Дняпро і Магілёў.
Як ні было б нам добра на чужыне —
Смуткуем мы па дарагой Айчыне!

●

Перад табою я не спавядаўся,
Хаця, як кожны, грэшны я душой.
Між намі чорт якісьці замяшаўся,
І разышліся мы тады з табой.

Сабе нідзе я месца не знаходзіў,
Сціскала сэрца боль усё мацней,
І з памяці твой вобраз не выходзіў,
Рабіўся прыгажэйшым і мілей.

Мінула вечнасць! Раптам апаўночы
Трывожны і настойлівы званок,
Знаёмы голас, ласкавы, жаночы:

— Патрэбны ты мне, як вады глыток!
— І ты мне, нібы свежае паветра!
Жыві, каханне! А чарцей — у нетры...

*1982*

●

Лісцё сухое кружыць над зямлёю,
І лёгкі сум агортвае душу.
Даўным-даўно рассталіся з табою,
І я старое больш не варушу.

Яно пакрыта тоўстым пластам пылу,
Яно зарыта ў памяці маёй.
І што было калісьці сэрцу міла,
Здаецца недарэчнаю маной.

Ці я кахаў, ці ты мяне кахала,
Ці то усё згадалася мне ў сне?
І ўсё, што сэрцы нашы хвалявала,
Сплыло з вадой імклівa па вясне.

Ах, як хацеў бы стрэцца я з табою!
Сухое лісце кружыць над зямлёю...

*1982*

Алесь ПАШКЕВІЧ



### САДОЎНІК

Зазірні, шаноўны незнаёмец,
у мой сад, што восенню зацвіў.
З раніцы тут птушкі з дзюбаў поязь
першых немаўлят — пялёсткі сліў.

Ёсць прытулак дзіўны й незнаёмцы
пад суквеццем вобразаў і слоў —
тут яна была ўжо, калі сонца
цалавала ў летапісах сноў.

Як ахвота — паведу на ўзвышша,
дзе валошкаў сум, дзе вінаград...
Нават золак зноўку ў неба выйшаў
асвяціць паэтаў вечны сад.

Дык заходзьце!
Вартавы ягоны,
хрышчаны спякотай і дажджом,
пакажу вам спелых вершаў кроны.
Хочаце — і ў свой нясіце дом.

●

Пацалуй мяне, любае неба,
ў непакорны няўрымсны віхор.
На вяршынях спакойных гор
што яшчэ ад жыцця мне трэба?!
Восень зноўку санеты напіша
на афінскіх калонах дрэў.
Бацька-жнівень іх душы сагрэў,
і таму па-над паркамі — ціша...

Падары мне лівоні карону
ў дыяментах случанскіх рос
і кашулю пашый навырост —
абярэгам хай будзе да скону.

Бо за паркам, на храмным узвышшы,
даўганогая хвойка мая
на апалых лістах дывана
голкай-пёркам пасланне мне піша...

### ВЯСНЯНКА

Знямогламу і хвораму вясной
да траўню шчырасці б
спрадвечнай далучыцца, —
бо што з таго, што й я махаў касой,
што й мне ў душу заглядвала ваўчыца?..

У час няпэўны ідалаў нямых
на сінім моры б сонцу памаліцца,
каб чуць, як па гадах маіх
складаюць песню сумную званіцы...

Каб кожную вясну зноў стукалі ў акно
каштаны — з зелянінаю на скронях, —
крыху расталае суквеццяў эскімо
ў спякоту весела працягвалі ў далонях.

### АХВЯРНІК

Вымываюць дажджы
залатоўкі лістоты —
каб зіме заплаціць свой апошні аброк.
Іх — далоні вятроў заграбаюць употай
у скарбонкі снягоў, пад марозу замок.

А паэт-лістапад, сваім вершам-лістам
не дамогшыся лепшае долі,
ахвяруе іх ноччу вампірам-кастрам
і віхром сабе грудзі праколе...

●

Дазволь украсці пацалунак
у ветра, што яго забраў,
калі, глытнуўшы жарсці трунак,
ступіла ты ў спакуснасць траў.

Да снегу раўнаваў цябе я,
сціскаючы свой злосны шал,
калі гуллівая завея
яго хавала пад твой шаль...

Калі ж мы з зорак вінаграду
усю слодыч высмакчам з табой,
ты прычасці мяне пагляддам
і солад выпіць свой дазволь.

### ЧЫТАНКА

Разышоўся аблокаў дазор,
абудзілася ветру дыханне.
На пергамент скамечаны гор
мы запісваем верш пра каханне.

Промняў пёры ж выводзяць здавён
срэбна-сінім атрамантам мора
сказ пра вечнасць каротkіх дзён,
песню сагу аб шчасці і горы.

Неба з громам чытаць будзе ўслых —
і аднойчы лавандавым ранкам
для шчаслівых абранцаў сваіх
укладзе ў прыгажосцяў чытанку.

### ПАРТРЭТ

Цябе змалёўвалі начныя акварэлі
маіх спакусаў вечных і трывог —
пад аркаю, што ў люблінскім гатэлі.
І пэндзаль узнімаў, здалося,
сам Пан Бог:

хацеў, каб рыфмы —
вершаў менестрэлі —
на скрыжаваннях і чужых дарог
з крышталнай смагай вобраз
твой сустрэлі,
каб смелай любасцю
спатоліцца я змог.

...Пасевам фарбаў ажыла карціна,
ад свежай руні Творца захмялеў.
А мы пад спеў арфічнага Тувіма
ідзём збіраць калоссяцвет залеў.

*Аповесць "Яўсей-выбраннік" — гэта расказ пра лёс двайніка І. Сталіна. Сярод матэрыялаў на гэтую тэму, якія пачалі з'яўляцца ў друку прыблізна з 1987 года, быў і аб'ёмны артыкул канадскага журналіста Ільі Герола ў трэцім нумары літоўскай газеты "Форумас" за 1990 год. Сам савецкі дысідэнт, Герол расказаў у ёй пра сустрэчу з двайнікам Сталіна Яўсеем Любіцкім, якога ён адшукаў у Душанбе ў 1961 годзе. Пажылы, хворы Любіцкі расказаў яму пра свой трагічны лёс. Яго, служачага з невялікага правінцыйнага гарадка, сапраўды ў той час вельмі падобнага на Сталіна, прымусілі да выканання ролі двайніка. Асуджаны ён быў у 1935 годзе, сям'я — знішчана. Рэабілітаваны ў 1953 годзе. Па дамоўленасці з Любіцкім, звесткі, матэрыялы пра яго журналіст апублікаваў у зарубежным друку толькі ў 1981 годзе, пасля смерці былога двайніка. Дакументальныя звесткі з артыкула І. Герола перш-наперш і выкарыстаны ў аповесці.*

**Аўтар**

Леанід ПРАКОПЧЫК



# ВЫПРАБАВАННЕ

## СТАРОНКІ З АПОВЕСЦІ

Акрамя рэпетыцый у прысутнасці Круглова і Марыі Іванаўны (а гэта — шматлікія заўвагі, наказы, парады), у Лісянскага хутка ўвайшло ў правіла познім вечарам, калі на дачы ўсе ўжо спалі, зноў апранаць Яго форму, папярэдне, вядома, зацягнуўшы шторы і замкнуўшы дзверы. Гэта былі асаблівыя хвіліны ўнутранага, філасофскага асэнсавання сваёй ролі, свайго становішча двайніка вялікага чалавека. Яўсей Фаміч садзіўся перад люстэркам і зноў разглядаў свой адбітак і знаходзіў, што менавіта ў спакоі, калі яго не чапаюць, твар набывае — да чаго ён і імкнуўся — мудры спакой і веліч.

Яўсей Фаміч і сам усё больш пераконваўся ў сваёй абранасці, знаходзячы доказы таму і ў неадольным жаданні (хоць усе блізкія былі супраць) насіць вусы, і ва ўчынку фатографа Лесіка, які ні з таго ні з сяго, праз два месяцы пасля фатаграфавання, вывесіў яго вялікі партрэт у цэнтры вітрыны, і сваю даўнюю, пастаянную цікавасць да ўсіх партрэтаў ІВ, у чым ён раней неяк і сам сабе не прызнаваўся.

І вось цяпер — самыя спрыяльныя ўмовы для асваення вобраза: ён не толькі носіць асабістае адзенне, але і жыве побач з Ім, у яго доме, есць тое ж, што і Ён, дыхае з Ім адным паветрам! І як шкада, што ні з кім (рэжысёра Круглова ён выключаў) нельга падзяліцца гэтым адкрыццём, адчуваннямі! Як шкада, што яны памруць, зніknуць разам з ім!

Дарэчы, іменна ў такія мінуты, стоячы перад люстэркам, Яўсей Фаміч нарэшцетакі пераадолеў сябе — пачаў па-сапраўднаму, у зацяжку курыць (набіваць трубку, як і чысціць яе навучыўся раней, загадзя), адчуў і ацаніў водар — нешта менавіта паўднёвае — пах тытуню з маляўнічай кардоннай каробачкі з экзатычнай назвай "Герцагавіна флор".

Успамінаючы кадры прагледжанай напярэдадні кінахронікі, Яўсей Фаміч паўтарыў перад люстэркам спакойны, скупы ківок ІВ, стрыманую ўсмешку — зубы ў яго амаль ніколі не відны. Уставаў, хадзіў, краем вока пазіраючы ў люстэрка. Ён зразумеў, што трэба вызваліцца ад скаванасці пры хадзе, ды і седзячы за сталом у крэсле, хаця адначасова і памятаць, што ў ІВ няма ніякіх лішніх рухаў: Ён мінімальна варушыць плячыма і рукамі і ў Яго вельмі скупая міміка.

А далей, нават пасля поўнага поспеху, што будзе з ім? Калі адпадзе патрэба ў двайніку або падрыхтуюць іншага з мэтай бяспекі, страхоўкі? Не раз задумваўся над гэтым, у мінуты свайго начнога пазіравання перад люстэркам, Лісянскі.

...Нарэшце надышоў час першага выхаду Яўсея Фаміча ў касцюме ІВ, першай праверкі на людзях. Усё прадугледжана. Калі хто і заўважыць нейкае непадабенства, неадпаведнасць, то наўрад ці хопіць у яго смеласці падняць трывогу: а раптам памылка? Усё ж на такі выпадак — магчымага падазрэння, нават выкрыцця — быў падрыхтаваны варыянт: умешваецца Круглоў, усе ведаюць, што ён — рэжысёр, вось ён тлумачыць, што падазраваемы — акцёр аднаго з маскоўскіх тэатраў, які па запрашэнні самога ІВ рэпеціруе, абжывае роль Сталіна тут, у найбольш набліжаных абставінах.

Лісянскі яшчэ з вечара ведаў, што час праверкі з Іосіфам Вісарыёнавічам узгоднены і іх прагулкі ў двары і парку заўтра раніцай не супадуць. Было гадзін дзевяць — халодная, хмурая раніца. Давялося апрануць ужо прымераны, падрыхтаваны шэры, на цёплай падкладцы макінтош ІВ. Вырашана было, што Круглоў і Марыя Іванаўна будуць назіраць за ім — прымаць залік, як пажартавала Марыя Іванаўна — зверху, з веранды, таму аддаляцца ад дачы, заходзіць у лес не варта, пажадана трапіць каму-небудзь на вочы непадалёк.

Сышоўшы з ганка, Яўсей Фаміч, як ІВ пры першай іх сустрэчы, прайшоў па асфальтаванай дарожцы ўздоўж сцяны і звярнуў на алею, што вяла да гаража. Ішоў няспешна, рукі за спіной, але ступаў цвёрда, упэўнена. Пакуль нікога не бачыў, вакол было ціха. Нерухома сталі адсырэлыя, чорныя сосны, рыпеў пад нагамі мокры жвір-гравій. І толькі вясёлыя сініцы — парачка — суправаджалі яго, пералятаючы з галінкі на галінку і гучна пасвістваючы.

І вось, калі Лісянскі быў ужо непадалёк ад гаража, раптам адны з шырокіх гаражных варот са скрыпам адчыніліся і выйшаў — таксама ў плашчы і ў кепачцы — Кіруша, яго дарожны вартаўнік, кампаньён! Лісянскі ўздрыгнуў, ногі раптам аслабелі — хто-хто, а Кіруша яго ведае! Але знешне (і хутчэй не ад намагання, а ад страху) — ніякай рэакцыі, хапіла духу нават на тое, каб ўсміхнуцца: як жа — сустракае чалавека з персанала дачы. Кіруша таксама не разгубіўся і, не дайшоўшы некалькі крокаў, дакладна, як аддаюць рапарт, прывітаўся:

— Здравствуйте, Иосиф Виссарионович!

Лісянскі ціха адказаў сваё "здравствуйте" і, не затрымліваючыся, не спыняючыся, прайшоў міма. "Праехала!" Ні здзіўлення, ні страху Кіруша не праявіў, а ён жа, несучы тут службу, трэба думаць, нярэдка сустракае ІВ! Яўсей Фаміч спакойна ўздыхнуў і правёў даланёй па лобе, быццам здымаючы напружанне.

"Праехала. Значыць, падобны сапраўды..."

Не child спяшаючы кроку, Яўсей Фаміч па высыпанай гравіем нешырокай дарожцы абышоў піраміду розных гаспадарчых пабудоў, спыніўся, паглядзеў на карычневую гладзь азярца, якое раскінулася ў абрамленні чароту, і павярнуў назад, да дачы.

Можна было вяртацца, залік, напэўна, прыняты, але, задаволены сабой і асмялелы, Лісянскі вырашае падысці яшчэ і да каравулкі — ярка-чырвонага доміка з двума скразнымі, як у прахадной, дзвярыма і вокнамі-амбразурамі ў кожнай сцяне. Тут пастаянна дзяжурылі двоетрое вайскоўцаў. А сама камендацкая была недзе ў адміністрацыйным комплексе, там, пэўна, месціўся і начальнік варты. Патрулі на тэрыторыі парку і ахова на самой дачы паводзілі сябе даволі-такі скрытна, асабліва не выстаўляліся, так што сустрэць вартавога або дзяжурнага было не так проста. Таму Лісянскі і вырашыў спецыяльна наблізіцца да варот, каб прыцягнуць увагу. Вядома, яго хутка "засеклі", і калі Яўсей Фаміч падышоў да каравулкі, на нейкі дзесятак метраў, дзверы расчыніліся і на парозе, як зязюля ў гадзінніку, узнік дзяжурны — бравы, у туга падперазанай гімнасцёрцы і ў фуражцы хлопец. Ён выцягнуўся і аддаў чэсць:

— Здравствуйте, товарищ Сталин!

Унутры ў Лісянскага нешта салодка абарвалася — "прыняў"! Ён спыніўся, ускінуў вочы, маўляў — а, гэта вы! — зноў паўтарыў ужо выразна, упэўнена сваё "здравствуйте", пацвердзіўшы яго кіўком галавы і, не мяняючы тэмпу, заклаўшы левую руку за спіну, пайшоў проста да дачы.

"Ніякіх больш рэпетыцый, трэніровак — якраз без усялякіх сумненняў і ваганняў прымаюць тыя, хто бачыць, сустракае ІВ ледзь не кожны дзень! Час зажыць і нармальным жыццём. Але — ці можа яно быць цяпер нармальным? Заўтра ж паедзем глядзець кватэру! Гэтым разам Круглоў не адкруціцца..."

Яўсей Фаміч прайшоў праз паўцёмную вітальню з некалькімі дзвярыма, з дзвюма — у розных канцах — лесвіцамі. Як заўсёды, у вітальні нікога, хаця паўзмрок усё роўна нейкі насцярожаны, кожны, хто ўваходзіць сюды, несумненна, "праглядаецца", фіксуецца. Падняўся па звыклай ужо, засланай дываном лесвіцы, але і на верандзе нікога не было. Зайшоў у клас — вось дзе яны: пачырванелы, быццам выслухаўшы вымову, Круглоў стаяў перад тэлефонным столікам, трымаў трубку, ківаў і прыгаворваў:

— Так, так, Іосіф Вісарыёнавіч...

Марыя Іванаўна стаяла побач і не зводзіла з яго вачэй, улоўліваючы змены твару, інтанацыі ў голасе Круглова.

— Так, шэфства застаецца Да пабачэння, усяго добрага, Іосіф Вісарыёнавіч!

Нарэшце Круглоў павесіў трубку і стомлена сагнуўся, абапёрся рукой на тэлефонны столік.

— Што, Кока, што ён сказаў? — Марыя Іванаўна ўчапілася яму ў плячо.

— Фу-ух, — разгінаючыся, шумна выдыхнуў лішняе паветра Круглоў. — Усё, віншую вас, дарагія, — перамога! — ён абхапіў, пацалаваў Марыю Іванаўну ў лоб. — Таксама назіраў. Задаволены. Гаворыць — ад душы пасмяяўся!

Круглоў хутка падышоў да Яўсея Фаміча, які так і стаяў пасярод пакоя, хацеў яго абняць, але раптам адхіліўся, напэўна, стрыманы форма ІВ, і толькі моцна, удзячна паціснуў яму руку.

Але выпрабаванні на сустрэчах з персаналам дачы не закончыліся. Яшчэ адзін і вельмі няпросты, адказны экзамен наладзіў Яўсею Фамічу сам ІВ. Дакладней, Ён толькі падаў Круглову ідэю — прадставіць двайніка каму-небудзь з Ягоных блізкіх саратнікаў. Не для гутаркі, вядома. Проста арганізаваць кароткую сустрэчу, але пажадана ў памяшканні.

Калі Лісянскі даведаўся, што плануецца прадставіць яго самому Варашылаву, перапалохаўся не на жарт і пачаў адмаўляцца.

— Па касцюме, знешне, адчуваю, я гатовы, згодны, — тлумачыў ён Круглову, — але зразумейце: я не паспеў яшчэ па-сапраўднаму ўжыцца ў вобраз, не гатовы яшчэ ўнутрана, маральна. Усё вельмі хутка, усё адразу? На гэта патрэбен тэрмін. Раптам маршал задасць, напрыклад, пытанне дзяржаўнай важнасці або пачне пра нешта дакладваць? Як мне паводзіць сябе? Ушкаць ад яго? Давайце хоць на некалькі дзён адкладзём эксперымент, папрацуем, падрыхтуем магчымыя варыянты. Баюся, не вытрываю, сарвуся.

— Яўсей Фаміч, вытрываеце! Трэба! — раптам, як ён гэта ўмеў, Круглоў стаў сур'ёзным, загаварыў безапеляцыйна: — Вы што, не чулі, хто задумаў, хто прапануе сустрэчу? Пра адклад, а тым больш пра адмену не можа быць і гаворкі. Нам застаецца адно — падрыхтаваць і правесці аўдыенцыю як мага лепш, каб ІВ зноў застаўся задаволены і канчаткова даверыўся свайму незвычайнаму і, трэба прызнаць, таленавітаму памочніку. Гэта значыць — вам...

Прайшло два дні. Надвор'е стаяла дрэннае. Неба з раніцы і на ўвесь дзень зацягвалі шэрыя хмары, ішоў надакучлівы дождж, так што Яўсей Фаміч амаль не выходзіў з дачы. Праўда, з'ездзіў з Кругловым у Маскву — таксама мокрую, цёмную і нарэшце агледзелі на бульвары ля Чыстых Прудоў выдзеленую яму кватэру. А на трэці дзень, раніцой, адбылося праверачнае з'яўленне Яўсея Фаміча перад Варашылавым. Дэманстрацыя была задумана, як даволі жорсткі, хаця, можа, і адпаведны нормам іх былога рэвалюцыйна-канспіратыўнага жыцця, розыгрыш блізкага саратніка-сябра.

Напярэдадні вечарам ІВ па тэлефоне папрасіў свайго Кліма прыехаць на дачу раніцай к адзінаццаці гадзінам — ёсць справа. Тады ж вечарам — рана сцямнела, запалілі святло, — яны з Кругловым спусціліся на першы паверх у кабінет, куды павінны былі правесці раніцай Варашылава. Як і іншыя памяшканні на дачы, кабінет аказаўся вялікі, доўгі, у ім было двое дзвярэй — адны насупраць другіх, абцягнутых карычневай скурай, вялікія зашторавыя вокны. У вугле стаяў сярэдніх памераў пісьмовы стол з запаленай настольнай лямпай і белым тэлефонным апаратам. Побач — тумбачка-этажэрка, на паліцах — некалькі кніг. Над пісьмовым сталом вісела вялікая, ярка размаляваная карта Савецкага Саюза. На другой, глухой сцяне ў рад былі вывешаны партрэты Маркса, Энгельса, Леніна. А пасярод стаяў вузкі, доўгі, напэўна, метраў восем-дзевяць, стол, акружаны паўмяккім, з высокімі спінкамі крэсламі.

Тут жа, на месцы будучага дзеяння, яны дэталёва абгаварылі, удакладнілі праход Яўсея Фаміча і, акрамя таго, увялі ў яго сціплы лексікон два словы — "Извини, минутку!", аб'яднаныя ў адну фразу-просьбу. Сказаць яе, па-першае, трэба было як мага цішэй, па-другое (тут ужо нікуды не дзенешся) — з акцэнтам: няхай не вельмі яркі, але акцэнт неабходны. Яны вычленілі з задуманай фразы ўсе чатыры гукі "і" і вызначылі ім адпаведныя падфарбоўкі, дзе пад "ы" — "іы", дзе над "э"". Са сталінскім акцэнтам (Круглоў лічыў, што выдатна валодае ім) фраза павінна была гучаць: "Иызвэни, мыинутачку!" Некалькі разоў асобна кожнае слова, потым цалкам фразу вымаўляў Круглоў, а за ім паўтараў, капіраваў Яўсей Фаміч, пакуль настаўнік, нарэшце, не вызначыў:

— Добра! Толькі, калі ласка, як дамовіліся — ціха і не вельмі ўцямна, быццам голас прастуджаны або баляць зубы. Ну, а мяркуючы па тым, што гаварыць будзеце мімаходам, то незразумелая скорагаворка апраўданая, натуральная...

Сама ж сцэна выстройвалася наступным чынам: Варашылаў прыязджае к адзінаццаці, заходзіць у кабінет, тут ён ці прысядзе да стала, ці будзе хадзіць, а, можа, і стаяць ля карты. У пяць-дзесяць мінут дванаццатага праз дзверы, што ля пісьмовага стала, з'явіцца Яўсей Фаміч — ІВ.

"Здравствуй!" — ні ў якім выпадку не "здравствуйте" — яны на ты, набліжаецеся, а, можа, Варашылаў пойдзе насустрач, паціскаеце яму руку. Цяпер, што б Клімент Ярфрэмавіч ні сказаў ці спытаў, вы тут жа вымавіце сваю адзіную, у даным выпадку сакраментальную фразу — "Иызвэни, мыинутачку!", і спешна праходзіце праз увесь кабінет да другога выхаду. Усе паводзіны, інтанацыя голасу павінны быць такія, быццам Ён раптам успомніў нешта тэрміновае. Ну, што трэба аддаць распараджэнне, ці забыўся папрасіць, каб ім падалі ў кабінет снеданне...

А потым, праз некаторы час, зойдзе сапраўдны Іосіф Вісарыёнавіч, не мае значэння, калі і ў якім касцюме — паспеў пераапрануцца. Яму вядома, ужо агаворана, што перад яго з'яўленнем скажа двайнік, так што Ён лагічна прадоўжыць размову. Ну і вядома, гэта ж асабісты заказ: з самага пачатку Ён будзе сачыць за ўсёй сцэнай — ёсць такая магчымасць...

(Працяг на стар. 12)

ЛіМ ЧАСАПІС



## ЗГАДАЛІ МАСТАКА




**У беларускую культуру не перастаюць вяртацца новыя імёны. Вось і яшчэ адно імя, не столькі невядомая, колькі забытае, неацэненае вернута ва ўжытак — Аркадзь Астаповіч (1896—1941), беларускі мастак, выдатны графік, пейзажыст, тонкі лірык, які, як ні хто, змог увасобіць у сваіх творах настрой беларускай прыроды, характво беларускіх людзей. Не дзіўна, што ў часы, калі ад мастацтва патрабавалася сацыяльная заангажаванасць, успяванне заваёў новага грамадскага ладу, карціны А. Астаповіча былі неактуальнымі, а пазіцыя мастака — нават падазронай. Нездарма нейкі час (на шчасце, нядоўгі) Аркадзь Астаповіч паспытаў бальшавіцкай турмы.**

**Загінуў мастак на самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны, у 45-гадовым узросце. Сёлета, 1 кастрычніка, спаўняецца 100 гадоў з яго дня нараджэння. Да гэтых угодкаў было прымеркавана адкрыццё мемарыяльнай шыльды, якое адбылося 11 верасня ў вёсцы Навасёлкі Пухавіцкага раёна. Менавіта тут, у вясковай школе, у 20-я гады мастак выкладаў маляванне, менавіта з Навасёлкамі звязаны самы яркі перыяд яго творчасці, менавіта мясцовыя жывапісныя краявіды натхнялі Астаповіча на стварэнне яго лепшых карцін. Сёння ацалелі толькі два будынкі, звязаныя з імем мастака — гэта згаданая Навасёлкаўская базавая школа і былы будынак 9-й школы ў Мінску, дзе А. Астаповіч выкладаў у 30-я гады і дзе будзе ўстаноўлены яго бюст. Месца пахавання мастака на сёння невядомае.**

**Для Навасёлкаўскай школы, дзе цяпер вучыцца каля ста дваццаці дзяцей, ушанаванне памяці Аркадзя Астаповіча — вялікая падзея. Нацыянальны мастацкі музей падарыў школе невялікую выставу карцін мастака, створаных у свой час у Навасёлках — мясцовыя краявіды, многія з якіх пазнавальныя і зараз, партрэты дзяцей — вучняў гэтай школы 1925 года. Ініцыятарам ушанавання памяці мастака з'яўляецца Нацыянальны мастацкі музей, невялікія грошы дзеля гэтага дало Міністэрства культуры. Аўтар дошкі — малады скульптар, студэнт IV курса Беларускай акадэміі мастацтваў Павел Вайніцкі. Ён працаваў на дабрачынных пачатках, што сімвалічна — бо Аркадзь Астаповіч у свой час таксама шмат што рабіў бескарысна і самаахвярна.**

**На адкрыцці дошкі прысутнічалі родныя мастака — пляменніца, маскоўская мастацтвазнаўца І. Т. Нярсесава, дарэчы, ураджэнка вёскі Навасёлкі; унучка А. Астаповіча А. Смірнова, нявестка М. Астаповіч, супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея на чале з дырэктарам Ю. Карачунам, старшыня Беларускага фонду культуры У. Гілеп, вядучы спецыяліст па выяўленчым мастацтве Міністэрства культуры І. Мятліцкая. У імпрэзе прынялі ўдзел настаўнікі і вучні Навасёлкаўскай школы.**

**Думаецца, што памяць пра славутага настаўніка назаўсёды застанецца на Пухавіцкай зямлі, а імя і творы мастака Аркадзя Астаповіча стануць вядомымі кожнаму, хто цікавіцца беларускім мастацтвам.**

*Фота Д. Казлова*

## ІШОЎ АД ПЕРАЖЫТАГА

**Іван Шальманаў да свайго 60-годдзя не дажыў. Нарадзіўся ён 5 верасня 1936 года, памёр 10 ліпеня 1993 года. Родам з вёскі Каромка Буда-Кашалёўскага раёна. Скончыў Рогінскую сярэднюю школу (1955), Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1981). Апошні час працаваў на Беларускім радыё. З першым апавяданнем "Сябры" І.Шальманаў выступіў у 1960 годзе на старонках газеты "Чырвоная змена". У 1969 годзе выдаў першую кнігу "Дзень пачаўся", якая была прыхільна сустрэта крытыкай. Другой кнігай І.Шальманава стала аповесць "Цагельня" (1977). Напісаў шэраг нарысаў, а асобныя апавяданні з'явіліся ў часопісе "Маладосць" пасля смерці пісьменніка. У сваіх творах ён найперш ішоў ад пеажытага. А давялося і ў арміі служыць, і слесарам працаваць, і качагарам, пакуль выбраў журналісцкую сцяжыну.**

# ПАМЯЦІ РУСКАГА ДРУГА

У гэтыя залатыя вераснёўскія дні паэту Міхаілу Дудзіну было б 80 гадоў. Яго пранікнёная лірыка ўвайшла ў вялікую літаратуру ў апаленым і прастрэленым шынялі з гераічнага вострава Ханка, з блакаднага Ленінграда. На ўсю краіну загучалі яго "Салаўі", лірыка і паэмы. А ён не выходзіў з бою да канца вайны. З гадамі стаў кіраўніком Ленінградскай пісьменніцкай арганізацыі, дэпутатам Вярхоўнага Савета РСФСР, Героем Сацыялістычнай Працы. Вышэй за ўсё ён нёс званне паэта. Адна за адною выходзілі яго мудрыя, з дасканала выверааным шчырым словам кнігі.

У кожнай рэспубліцы былі ў яго сябры — яго перакладчыкі, ён — іх перакладчык. Ён сябраваў з многімі беларускімі паэтамі свайго пакалення, перакладаў Броўку, Танка, Куляшова, Панчанку.

Для мяне была вялікая асалода перакласці на беларускую мову кніжку вершаў Дудзіна "Пасля спаткання". У прадмове да яе Міхаіл Аляксандравіч прызнаваўся: "Шчыра палюбіў братоў-беларусаў і іх паэзію". Мы таксама любілі яго, любілі і любім звонкі, чысты, глыбокі, шматкалёрны свет яго паэзіі.

Не стала Дудзіна 31 снежня 1993 года.

Прапаную два яго вершы ў маім перакладзе.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

Міхаіл ДУДЗІН

### УЛАДА

**Не дасць і самы мудры рады**
**Таму, што прагне толькі ўлады,**
**А вырваўшы уладу з бою,**
**Нацешыцца не можа ёю.**
**Счарнеюць ад такой улады**
**Зямля і неба, як ад здрады.**
**Над прорвай свечку запалю**
**І Усявышняга ўмалю:**
**"Шчаслівы буду я і рады,**
**Калі не траплю ў пашчу ўлады".**

*1977 г.*

●

**У прыродзе за зменаю — змена:**
**Зноў на досвітку кружыцца снег.**
**І хочацца крыкнуць: "Алена!"**
**У гарбатых сумётаў разбег.**

**У замеці тычкі прапалі**
**Да самай лясной паласы,**
**Сустрэчнае рэха схавалі**
**У снежных узорах лясы.**

**І толькі над ноччу глыбокай**
**Сузор'я гарыць вастрыё.**
**Святло тваёй зоркі далёкай**
**Праходзіць праз сэрца маё.**

*1964 г.*

# ВЫПРАБАВАННЕ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Назаўтра, каля адзінаццаці гадзін, па яшчэ невядомай унутранай лесвіцы яны з Кругловым спусціліся ў паўцёмную перад кабінетам вітальню. Круглоў на дыбачках падышоў да дзвярэй, прыпаў да нейкай патаемнай шчыліны і, хутка адхінуўшыся, жэстам загадаў Яўсею Фамічу ўваходзіць.

Высокія дзверы, як толькі ён націснуў на ручку, ціха і лёгка адчыніліся. Убачыўшы Варашылава, Лісянскі зрабіў два-тры крокі насустрач і адразу сказаў — "Здравствуй...". У кабінеце было не вельмі светла, з трох акон толькі на адным рассунуты шторы — напэўна, спецыяльна. Варашылаў сядзеў, чакаў недзе ў сярэдзіне стала. Ён рэзва падняўся, заўсміхаўся... Яўсей Фаміч за тыя секунды, пакуль праходзіў, паспеў разгледзець яго круглы, дагледжаны твар з кароценькай шчотачкай вусоў, хвалістыя валасы. Ён быў у падперазанай ваенным рамянём гімнасцёрцы, на шырокім адпрасаваным каўняры — малінавыя вуглы нашывак, праз плячо — раменьчык партупеі і злева адзін ордэн. Як на партрэтах, выліты...

Лісянскі, не дайшоўшы два-тры крокі, спыніўся, узяўся чамусьці за падбародак — нейкі бессэнсоўны жэст-прыкрыццё, і, сказаўшы, прастуджаным голасам: "Иызвэни, мыинутачку!", пайшоў уздоўж стала далей, пачуўшы следам: "Добра, кацо!"

Але Лісянскаму не суджана было спакойна выйсці з кабінета. Ён раптам пачуў, што нехта ўвайшоў услед за ім. Азірнуўся: у расчыненых насцеж дзвярах стаяў і ўсміхаўся — белыя зубы свяціліся пад вусамі — сам Іосіф Вісарыёнавіч.

— Што, не пазнаеш? — зычна спытаў Ён.

Варашылаў пільна паглядзеў на Сталіна. Потым з цяжкасцю, быццам яму звяло шыю, павярнуў галаву ў бок Лісянскага, які спыніўся ў канцы стала, і зноў перавёў позірк на Іосіфа Вісарыёнавіча. Не зводзячы з яго пільных вачэй, Клімент Яфрэмавіч вобмацкам злавіў спінку бліжэйшага стула, змог падсунуць яго, сеў на край і — раптам рэзка, ніц уткнуўся ў стол, рукі абмяклі і павіслі...

Лісянскі акамянеў. Не ведаючы, што рабіць, ён паглядзеў у твар Сталіну. Той не заўважаў яго і працягваў усміхацца Варашылаву, спачувальна ківаючы галавой:

— Э-эх, Клім, шутак, нэ панымаїш, нэт... Дайце маршалу вады! — сказаў невядома каму, крута павярнуўся і выйшаў.

# І СЛОВА КАМЕНЬ ТОЧЫЦЬ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

лозунгаў, іншай нагляднай агітацыі і г.д. І яшчэ. Ці не кожны дзень Аляксандр Лукашэнка падпісвае ўказы аб сацыяльнай падтрымцы асобных катэгорый насельніцтва — бюджэтнікаў, пенсіянераў, інвалідаў і г.д. Намер тут ясны — прыцягнуць на свой бок частку насельніцтва. Але ж адкуль бяруцца гэтыя грошы? Згадваюць нейкія пазабюджэтныя фонды, паходжанне якіх досыць цьмянае. Відаць, хутчэй за ўсё існуе, акрамя афіцыйнага, яшчэ нейкі неафіцыйны бюджэт, якім распараджаецца асабіста прэзідэнт. А гэта ўжо з'яўляецца дзяржаўным злачынствам.

**— Нядаўна прэзідэнт заявіў, што замарозіць цэны. Дарэчы, абяцае ён гэта не першы ўжо раз. Але пасля чарговага "замарожвання" яны пачынаюць расці яшчэ хутчэй.**

— Робіцца гэта для таго, каб паказаць людзям, што кіраўнік дзяржавы нібыта здольны дырыжыраваць працэсам цэнаўтварэння. Але гэта — для легкавераў. Гэта, як кажуць, мы ўжо праходзілі, калі ў былым СССР панавала камандна-адміністратыўная сістэма, калі само словазлучэнне — рынкавыя адносіны — атаясамлівалася з "загнивающим" буржуазным Захадам.

**— Казырная карта Аляксандра Лукашэнкі — заключаны ім дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве з Расіяй. Ён вабіць многіх людзей.**

— Я таксама за яго галасаваў у парламенце. Але час паказаў, што нашы адносіны з вялікай усходняй суседкай зайшлі ў тупік. Да прыкладу, мытны саюз у тым выглядзе, якім ён задумваўся, фактычна праваліўся. Ва ўсякім разе, нам ад яго карысці амаль ніякай. Калі ў Мінск на пачатку года прыязджаў віцэ-прэм'ер урада Расійскай Федэрацыі спадар Бальшакоў (цяпер ён першы віцэ-прэм'ер), беларускі бок было заікнуўся аб некаторай карэкцыі мытнага саюза, каб ён неяк улічваў і нашы інтарэсы. У адказ сп. Бальшакоў усміхнуўся. Не больш, як фікцыя, і так званы "нулявы варыянт", паводле якога Расія нам даравала нашу запазычанасць за пастаўкі газу. Недзе адзін мільярд трыста мільёнаў долараў. Але аказалася, што і тут не ўсё проста. Я прысутнічаў на сустрэчы з кіраўніком "Газпрама" — ці не самай буйной у свеце недзяржаўнай карпарацыі па здабычы газу, Рэмам Вяхіравым, які без усялякай дыпламатыі заявіў, што Барыс Ельцын, скасаваўшы доўг Беларусі "Газпраму", павінен быў кампенсаваць яму звязаныя з гэтым выдаткі. Пакуль што гэтага не зроблена, заявіў Вяхіраў, а нам трэба плаціць зарплату газаздабытчыкам, транспарціроўшчыкам і г.д.

Я выступаў на сесіі Вярхоўнага Савета, перад падпісаннем дагавора з Расіяй. Сказаў, што буду за яе галасаваць, але папярэдне нам усім трэба ўсё добра абмеркаваць, падлічыць, прааналізаваць. Інакш дагавор ператворыцца ў простую дэкларацыю аб намерах. Што і атрымалася. Трэба ўлічваць і тое, што, як я ведаю з першых крыніц, у нашага прэзідэнта не склаліся адносіны ні з Барысам Ельцыным, ні з Віктарам Чарнамырдзіным. Відаць, сваю ролю ў гэтым адыграла тое, што Аляксандр Рыгоравіч не вельмі спяшаўся падтрымаць Ельцына ў час апошніх выбараў Прэзідэнта Расіі.

**— Выступаючы на адным з перадвыбарчых мітынгаў, Барыс Мікалаевіч досыць рэзка адазваўся аб дзеяннях Лукашэнкі падчас правядзення ў Мінску маніфестацыі, прысвечанай дзесятым угодкам чарнобыльскай трагедыі. Арышт некаторых удзельнікаў маніфестацыі расійскі прэзідэнт расцаніў, як парушэнне правоў чалавека.**

— Вось з такім багажом Аляксандр Лукашэнка ідзе на рэферэндум.

**— Але, тым не менш, рэйтынг прэзідэнта не зніжаецца і гэта адзначаюць многія незалежныя наглядальнікі. Яго па-ранейшаму падтрымлівае досыць шмат людзей. Асабліва ў сельскай мясцовасці, дзе ён — "свой". А тым часам усё большыя абароты набірае прапагандысцкая машына па стварэнні са спадара Лукашэнкі вобраза гэткага "бацькі нацыі". Выявы яго пачалі друкавацца нават на паштоўках, паштовых марках. З раніцы да вечара з радыёрэпрадуктараў льецца алілуя прэзідэнту Лукашэнку, яго партрэты штодня глядзяць з газетных палос, ловіцца і тыражуецца кожнае сказанае ім слова. Адным словам, на вачах ствараецца культ асобы.**

— Усё гэта разлічана на невуцтва людзей, іх грамадзянскую глухату.

**— І якое тут выйсце?**

— Трэба ісці ў народ, прасвятляць яго, адкрываць вочы на праўду, растлумачваць людзям, што чакае краіну, калі тут усталюецца дыктатарскі рэжым.

**— І людзі пачуюць?**

— Абавязкова пачуюць.

**— Эх, Уладзімір Пятровіч, як тут не згадаць славутыя мандэльштамаўскія радкі, напісаныя больш за шэсцьдзесят гадоў таму: "Мы живем, под собою не чуя страны, наши речи за десять шагов не слышны. Только слышно — кремлёвского горца..."**

— Не параўноўвайце той час з цяперашнім. Сёння голас дэмакратычнай грамадскасці краіны чуцен далёка за яе межамі, чуцен ва ўсім свеце. Ад таго так нервуецца сёння прэзідэнцкая рацы...

**— Мне застаецца толькі падзякаваць вам за гутарку.**

*Вельмі шаноўны Рэдактар!*

*Піша Вам невядомы чытацкаму свету аўтар Зімавей Зюзя (у метрыцы — Зінавей, на расейскі лад — Зіновій, але ў родным мястэчку мяне з маленства звалі Зімавей. Па ўзору знакамітага "Сказа пра Лысую гару" Францішка Ведзьмака-Лысагорскага (крый Бог, каб падумаў раўняцца!) я напісаў свой "Сказ пра ватнік", у якім трохі пакепліваю з нашых палітыкаў і дзяржаўнікаў, з таго, што ў нас і з намі адбываецца... Даруйце, калі ў творы малавата, на Ваш погляд, злосці і з'едлівасці. Рэч у тым, што ўвогуле я не сатырык, мне больш падабаецца пісаць лірыку, але ж во мусіў узяцца за гэту няўдзячную працу. Не ад вясёлага жыцця, як у такім разе кажуць.*

*Дарэчы, першы варыянт "Сказа" быў напісаны мной амаль год назад і накіраваны ў рэдакцыі газет, якім я больш ці менш сімпатызаваў. На жаль, у адказ — ні радка, ні гуку. Падумаў: можа, мастацкі ўзровень не задаволіў? — і ўзяўся за дапрацоўку. Так што гэта ўжо другі, значна дапоўнены і перароблены варыянт.*

*Са спадзяваннем, што мой "Сказ" Вам спадабаецца, і з вялікай павагай*

*24.4.1995*

**Зімавей ЗЮЗЯ**

Зімавей ЗЮЗЯ

# СКАЗ ПРА ВАТНІК

ПАЭМА

## *Прысвячэнне*

Аднаасобнік і прыватнік
Нутром, прафесіяй, душой —
Я аддаю свой "Сказ пра ватнік"
Табе, чытач шаноўны мой.
Я знаю сам, што не ўбрыльянціў
Сваё тварэнне — і аднак:
"Я буду вочань вам прыяцен!" —
Як гаварыў мне мой зямляк.
І буду рад, калі хоць нешта
У ім ты знойдзеш для сябе,
Калі на "Сказ" ты адгукнешся
Прысягай вершніку ў сядле.
Адзін ты здольны ўласным коштам
Спасцігнуць, верачы ў дабро, —
Дзеля чаго, чаму, навошта
Паэт бярэцца за пяро.

## ПРАЛОГ

Дзе гоман-гам і тлум страшэнны,
Дзе долар крылы распасцёр, —
З магнітафончыкам кішэнным
Ідзе па рынку рэпарцёр.
І ў бабкі з флёксамі пад тэнтам
Пытае, даўшы "добры дзень":
— А хто ў нас стане прэзідэнтам?
Хто татам прыйдзе да людзей?
— О, я на ўсіх іх паглядзела
І ўсіх паслухала. Усіх!
Каму б паверыць я хацела —
Няма такога сярод іх.
Адзін — занадта апантаны,
Як бальшавік наадварот;
Другі — якісьці несабраны:
На правай — чунь, на левай — бот;
Яшчэ адзін — дык той наогул,
Як з матыліцамі ў мазгах;
І той, што сонны, бы з бярлогу —
Хіба ён дасць жыццю размах?
Але найгорш, як трон татулькі
Захопіць гэны з грумады,
Што вочы — круцяцца як шпулькі:
Туды — сюды, сюды — туды!
— Чаму для нас найгоршы гэны?
— Я знаю наш тутэйшы род:
Хутчэй сабе мы ўспорым вены,
Чым зацугляем хіжы зброд.
Нам — каб усё сумленна, шчыра,
Каб толькі праўда да паслуг.
А перад шпулькамі-вачыма
Мы трацім волю, трацім дух.
Бяда і гора наша ў гэтым.
Наш слаўны род падзанямог.
І мы ўцалеем перад светам —
Калі ў сабе адчуем моц.
— О, бабка нават і філосаф! —
Усклікнуў гучна рэпарцёр.
— Не толькі ў клопаце аб флёксах,
Пра апарос ды пра ацёл.
Так, можна знацца і з прагрэсам
І дзюдзям харч насіць у хлеў...
— Якія дзюдзі? Я — прафесар!
А тут тырчу, каб мець на хлеб.
Я трыццаць пяць гадоў студэнтам
Чытала лекцыі аб тым,
Што робяць людзі з прэзідэнтам
У доме — родным, ды пустым!..
Імгненна знік магнітафончык,
Сказеліў вочы рэпарцёр,
Сказаў: "Прабачце!.. Гэтым кончым!" —
І матэр"ял у друк папёр.

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

"Хаўрус" сабраўся ў поўным складзе.
Паселі ў крэслы — рад у рад.
І быў у кожнага ў паглядзе
Свінцовай лютасці зарад.
І біла гулка, як у бубен,
У скроні ім благая кроў:
"Дакуль, дакуль цярпець мы будзем
Паршывых гэных змагароў?.."
Зайшоў Кумір. На залу глянуў —
І аж заззяў: адны яны —
Героі Вэнявых раманаў!
Айчыны верныя сыны!
Падняў руку — дзеля парадку —
І бухнуў голасам глухім:
— Пачнем, сябры! Але спачатку
Давайце выканаем гімн.
Ён, можа, стане ў нас дзяржаўны,
Дык трэба загадзя вучыць.
І так, маэстра паважаны,
Прашу! Праверым, ці гучыць.

Вайсковай выпраўкі маэстра
Абцасам стукнуў аб абцас,
Падняў "харыстаў" звыклым жэстам —
І песня выбухнула ўраз:

"Чалом, чалом вам, ягамосці!
Каб быў у нас тут мір і лад
І каб не нылі нашы косці —
Мы просім вас заняць пасад!
Мы жыць не хочам незалежна.
Дык усядайцеся ж ямчэй!
Кіруйце намі так жалезна —
Каб іскры сыпалі з вачэй!

Чалом, чалом, паны баяры!
Мы — смерды, вы — гаспадары.
Прымайце ў дар ад нас абшары:
Палі, лугі, лясы, бары.
Бярыце ўсё і гаспадарце,
Распараджайцеся суздром!
Адно нам нафты трохі дайце —
У кошт аплаты за сіндром.

Чалом, чалом, папы, манахі!
Хутчэй займіце кожны храм!
І, як старыя апранахі,
Пераніцуйце душы нам!
Каб мы дарэшты, дaастатку
Зракліся прадзедаў сваіх,
Прадалі ў рабства бацьку, матку,
І мову іх, і памяць іх.

Чалом, чалом вам, генералы,
Падперазаныя кулі!
Мы тыя нівы, дзе аралі,
Пад гарадкі вам адвялі.
Дратуйце, плюндрыце, паскудзьце,
Што не спаскудзілі раней.
А мы ў аддзяку — пэўны будзьце —
Адчынім кожнаму музей!.."

Хіба не так? На выгляд проста,
А як капнеш на паўвяршка...
Таму — трымайце вуха востра
Наконт усякага "сцішка"!..
Цяпер прыступім да пытання,
Дзеля чаго сабраў я вас.
Задачы й метады змагання
Нам абнавіць дыктуе час.
Каб змяць нацдэмаў — нам патрэбна
Зламаць ідэйны іх касцяк:
Сказаць народу, што ганебна
Цярпець далей іх герб і сцяг;
Сказаць народу, хто пускае
Яму атрутны ў вочы дым.
Народ гісторый не чытае —
І нам паверыць, а не ім.
У звязку з сімваламі мусім
Мы зручны момант скарыстаць —
І рускай мове ў Беларусі
Другой дзяржаўнай статус даць.
Калі мы гэтага даб'ёмся —
А мы даб'ёмся, чорт вазьмі! —
Асімілюем і зліёмся
Без валтузні і без разні.
"Святую мову" іх паволі
Сатрэм з рэспублікі ўсяе:
І ў акадэміі, і ў школе,
І на заводзе, і ў сяле!
Каб забяспечыць поспех справы,
Мы прыбярэм найперш да рук —
Прысвоім іменем дзяржавы —
І тэлерадыё, і друк.
Усіх пісакаў так прыцiснем,
Так шчыра возьмем за гарляк —
Што і ў эфір ніхто не пісне
І ў друк не вылезе ніяк!
А каб не ўздумалася д'яблам
Муціць на мітынгах народ —
Зацятым самым і заядлым
Давайце зробім "укарот".
Калі праз сквер ці міма парку
Хто будзе з іх ісці дамоў —
Мы паліцэйскую аўчарку
У цемры выпусцім з кустоў.
Але патрэбна ўдасканаліць
Майстэрства вучаных сабак,
Каб не хапалі, як абваляць,
За абы-што і абы-як.
Натрэніруйце першым чынам
За найбалючае хапаць
І нашым спосабам айчынным —
Гламзаць і рваць! Гламзаць і рваць!
Калі каторы з іх там ляжа,
Бы той каплун на ўслон ці гусь —
Дык і дзесятаму закажа,
Як ваяваць за Беларусь!..
Ну вось і ўсё! Як раіў Коба:
Вастрыце кіпці і клыкі!
Як толькі ўгледзіце якога —
Пускайце ў ход! Каб — на шматкі!..

Худы, як высахлая вобла,
Падняўся люты дзед Кашчэй:
— Што я пачуў тут — гэта добра.
Ды ёсць задумка і яшчэ.
Я прапаную з гербам разам
Імя краіны памяняць:
Адкінуць прэч старую назву
І Ахламоніяй назваць.

— Як-як? — заякаў нехта скраю.
Кашчэй не даў пытанне змяць:
— Дзяржаву трэба, паўтараю,
Нам Ахламоніяй назваць!
Па мілагучнасці, ды й сэнсам,
Тут перавагаў не злічыць.
Вы толькі ўслухайцеся сэрцам:
"Мы — ахламоны!" Як гучыць!
З усіх трыбун, з усіх амбонаў
Пра гэта свет апавясцім,
А самы хламы з ахламонаў
Пацвердзяць подпісам сваім.

Кумір нахмурыў пераноссе,
Пастукаў пальцам па стале:
Тут узмахнуў Кумір рукою
І дружны спеў перапыніў:
— Адставіць! Што гэта такое?
Хто гэту ерась сачыніў?
Па-мойму, вельмі ўжо занадта!
Канешне, мы — чалом, чалом!
Канешне, нам патрэбна нафта
Не менш, як чарка за сталом.
Але ж мы ўсё-такі — таксама!
І гэта самае — пры нас!
Таму — прашу дастасавана:
Без перабору і грымас!
Апроч таго, не скрозь удала
Наконт прыкмет, здаецца мне:
Нашто, напрыклад, генералаў
Раўняць з кулямі на гумне?
Вядома, звонку, звідавоку
Тут вобраз ёмкі і жывы.
А сэнс? А сэнс ідзе з намёку,
Што куль не мае галавы!
— Прабачце мне, партайгеноссе,
Я разумею вас, але...
Не трэба быць такім гарачым.
Цярпіце! Прыйдзе ўказ-загад —
Не толькі назву перайначым:
Усё крутнём на іншы лад!
Але ж вы ўсе тут не сляпыя
І самі бачыце, куды
Зайшла пакутніца Расія,
Калі ўпусціла павады.
А мы не ўпусцім! Мы іх вырваць
З мазольных нашых не дамо!
Вось толькі Раду трэба выбраць —
Каб з намі пела заадно!..

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

У той жа самы дзень, падвечар,
Вядомы Лідэр змагароў
Сабраў сваіх людзей на веча
І абвясціў без лішніх слоў:
— Пакуль народ наш, як пракляты,
Прымае здзек за божы дар —
Прыблуды, злыдні, рэнегаты
Яму рыхтуюць новы ўдар.
Удар па годнасці ягонай,
Па гістарычных каранях:
Зрабіць расправу над "Пагоняй"
І знішчыць наш дзяржаўны сцяг.
Яшчэ ж узяць адначасова
Дазвол і згоду ў нас саміх,
Што мусіць згінуць наша мова,
Каб заўладарыла тут іх.
Але што так яно і будзе —
У злыдняў пэўнасці няма,
Бо бачаць самі: нашы людзі
Прайшлі праз мукі нездарма.
Таму яны ў змаганні з намі
Запланавалі зверскі ход:
Гламзаць і рваць нас так клыкамі,
Каб звёўся ўвогуле наш род.
Хоць спраў сваіх і не палепшаць,
Яны рашылі — страх сказаць!—
У помсту нам за незалежнасць
На нас аўчарак выпускаць.
Прашу — без смешыкаў і рэплік!
Ім сам Кумір аддаў загад.
Калі не прымем мер канкрэтных,
Дык не ўратуемся ад страт.
Я знаю спосаб. Калісь бачыў,
Як дрэсіруюць тых сабак,
Што праслаўляюць род сабачы
На службе ў войску. Значыць, так:
Бяруць "шпіёна" ці "бандыта" —
Звычайна з бомжаў, у каго
Кішэнь грашыма не набіта,
І ў ватнік хутаюць яго.
А гэны ватнік — звыштаўсматы:
Каб не працяў ніякі клык —
У ім чатыры рэдзі ваты.
На галаве — такі ж башлык.
Сабака кінецца, дагоніць,
Пакоціць "ворага" на дол,
Шматае так — хай Бог бароніць!
Ды вязне ў ватніку ікол.
На целе нават ані знаку!
І можна ўпэўненымі быць,
Што і найлютаму сабаку
Трафей не ўдасца раздабыць.
Таму прыміце контрмеры:
Каб звер не здолеў гламзануць —
Хто выйдзе ўвечары з кватэры —
Павінен ватнік апрануць!

Тут слова ўзяў спадар Батончык:
— Вядома, ватнік — гэта рэч:
Не мой сялянскі балахончык,
Як і не твой шляхецкі фрэнч.
Але і ватнік не ўратуе,
Не ўберажэ ад страт-ахвяр,
Калі каго з нас упалюе
Разлютаваны Янычар.
Я чуў, нібы пры ім у ранцы
Ёсць партатыўны агнямёт:
Як смаляне — дык тут і кранты!
Праб'е струменем навылёт!

— Замры і сядзь! — успыхнуў Лідэр.
— Сказаў жа вам і раз і два:
Не хочаш стацца інвалідам —
Выходзь у ватніку з двара!
Нам трэба людзі са здароўем —
Каб сілу мелі ў барацьбе.
Інačай мы не абаронім
Дзяржаву нашу і сябе.
Да ўлады рвуцца мураўёўцы,
І калі толькі ўхопяць трон —
Нас не пагладзяць па галоўцы:
Усіх падгоняць пад закон!
Сягоння нават дашкаляты
Выдатна кемяць, што й чаму:
Чаму для нас іх род пракляты
Страшней за чорную чуму...
Цяпер — другое. Мы павінны
Прыняць адкрыты ліст-зварот,
Каб людзі нашае краіны
Зноў не папалі ў пераплёт.
Каб чатырнаццатага траўня
Не надзялілі ўладай зноў
Дзяржаўных псоў нераўнапраўя
І проста сукіных сыноў.
Хай прызадумаюцца ўсё-ткі,
Каго даверам блаславіць.
Зварот гатовы. Ён кароткі.
Прашу паслухаць і ўхваліць.

*(Працяг на стар. 14-15)*

### З ГІСТОРЫІ НАЙНОЎШАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

*Напярэдадні леташніх майскіх выбараў у рэдакцыю часопіса "Полымя" паступіла надзённая па гучанні паэма "Сказ пра ватнік". Паколькі "лыжка дарага к абеду" — "Полымя" перадало яе для тэрміновай публікацыі "ЛіМу". На жаль, і мы да парламенцкіх выбараў і рэферэндуму апублікаваць яе не паспелі (надрукавалі, як чытач, пэўна, памятае, толькі невялікі ўрывак-зварот да выбаршчыкаў), а пасля спяшацца з гэтым ужо не было пільнай патрэбы. Цяпер жа, калі многае акрэслілася і стала явай, гэты таленавіты па задуме і выкананні твор мае ўжо хутчэй гісторыка-літаратурнае значэнне. Але ведаць, што ён ёсць, — трэба. І што ёсць паэты, як Зімавей Зюзя, якім вельмі баліць тое, што ў нас дзеецца, — таксама трэба.*

*З такіх меркаванняў і прапануем "Сказ пра ватнік" увазе чытачоў.*

**"ЛіМ"**

Ударыў раптам гром і град.
Да мікрафона выйшаў Лідэр.
Спакойны з выгляду, счакаў,
Пакуль уляжацца гармідар,
І роўна, стрымана пачаў:
— Панове! Вашаму цынізму
Я не здзіўляюся даўно.
Душу, як брудную бялізну,
Адмыць нікому не дано.
Што ж, прадаўжайце! Прадаўжайце!
Тапчыце мовы весні квет,
Дратуйце герб і сцяг зрывайце —
Кумір ацэніць ваш імпэт.
А мы... а мы садзімся долку,
На гэты стоптаны кілім,
І аб'яўляем галадоўку —
Тут, у парламенце сваім...

Ад нечаканкі надзвычайнай
У многіх выцягнуўся твар,
Перакасіўся рот пачварна,
І ў зябкасць кінула, і ў жар.
Маршалак страшна разгубіўся
І ўжо хацеў трубіць фінал,
Ды тут як тут Кумір з'явіўся
І на рады абрынуў шквал:
— Я ў гульні з вамі не гуляю!
Я — жрэц народа, і таму
Аўтарытэтна заяўляю:
Умоў ніякіх не прыму!
Я стаўлю ўмовы: галасуйце,
Як ваш Кумір гаворыць вам,
І ў мой сцэнарый нос не суньце,
А то па носе пстрычку дам!
Калі ж ніхто з вас не падманіць,
То ўсе мы разам заўтра днём
Сфатаграфуемся на памяць,
Яшчэ й па чарчыне кульнём!..

Што пачало рабіцца ў зале —
Ні расказаць, ні апісаць.
Ну так ад шчасця ўсе заззялі —
Аж нават сталі "ўра!" крычаць.
Стары Ахрапак дык, як блазан,
Да змагароў зароў здаля:
— Гэй, спадары! Мы будзем разам
З Кумірам піць! А вам — скулля!..

Магутны выбух нецярпення
Здэтанаваны быў ураз.
— Маршалак! Хопіць выступленняў!
Ці ты не чуў Куміра ўказ?
— Давай гані па свежым следзе!
— Усё прымаем — без размоў!
— Там вытыхаецца ўжо недзе,
А ты тут пацеры развёў!..

Маршалка крык не агаломшыў.
— Ды калі ласка! Хто ж супроць,
Калі на гэта ёсць і грошы,
Пацешыць чарачкаю плоць?..

Уподбег, лёгка, як па маслу,
Пайшлі-прайшлі законы ўсе —
І аніводзін не захраснуў,
І не застрэў, і не засеў.
Як не застрэне ў пройме горла
І поўны келіх — не віна,
А чорнай ганьбы, здрады чорнай, —
Пажадна выпіты да дна.

А ўзбоч трыбуны, на праходзе,
Сядзелі моўчкі дзецюкі —
У горкіх думах: "О народзе,
Чаму ты ўцемраны такі?.."
Сядзелі хлопцы і не зналі,
У атачэнні патароч,
Якая іх у гэтай зале
Чакае жудасная ноч.
Але на гэтым замаўчу я,
Бо і з эфіру і з газет
Пра "ноч гарыл" усе ўжо чулі —
І ты, чытач, і цэлы свет.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Дзе гоман-гам і тлум страшэнны,
Дзе долар крылы распасцёр,
З магнітафончыкам кішэнным
Хадзіў па рынку рэпарцёр.
Ля дзядзькі з мордаю як рыдзель,
Што ў горца цытрусаў набраў,
Ён прыпыніўся, даў "дабрыдзень"
І прафесійна запытаў:
— Айцец, вось-вось з любві да Сойму
Народ на выбары папрэ:
Якая партыя, па-твойму,
Найбольш мандатаў набярэ?

"Айцец" скрывіў з пагардай губы:
— Якая партыя? Мая!
Мая! І спікерам, мой любы,
У новым Сойме стану я!
Мае рабяты-кандыдаты,
Усе праходзяць як адзін.
Таму што ў бітве за мандаты
Мы на хімеры не глядзім.
Мы ўсім трудзягам абяцанку
Даём — вярнуць, што ў іх было:
Магчымасць збегчы з працы ўранку
І дзербалызнуць паўкіло...

Імгненна знік магнітафончык,
Інтэрв'юер разявіў рот...
А міма ў ватніку Батончык
Прайшоў — і ўліўся... у народ.

*1994, чэрвень*
*1995, красавік*

Сярод кніг

# ВЫДАЕ "ТЭХНАЛОГІЯ"

***Паважаныя чытачы! Сёння, калі кінагандлёвыя арганізацыі амаль не займаюцца распаўсюджваннем беларускіх кніг, калі шлях у правінцыю, за межы Мінска, беларускамоўнай кнізе практычна зачынены, застаецца адно: нам самім цікавіцца і набываць выданні, якія, дзякуючы намаганням асобных энтузіястаў яшчэ выходзяць. Нягледзячы на цяжкасці, даўно і плённа працуе на беларускім кнігавыдавецкім рынку кампанія "Тэхналогія". Прапануем вам Каталог апошніх выданняў кампаніі. Заказвайце і чытайце беларускія кнігі!***

**1. Залоска Ю. Версіі: Шлях да храма "idea sui": дзённік, дыялогі, эсэ. 1995. — 463 с. (на бел. мове).**

З якой місіяй беларусы прыйшлі ў свет, якія каштоўнасці за сваю гісторыю стварылі; што паспелі выказаць пра сябе свету; што яшчэ павінны выказаць і стварыць?.. Над гэтымі пытаннямі ў дыялогах з журналістам, аглядальнікам штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" Юрасём Залоскам разважаюць беларускія палітыкі і пісьменнікі, філосафы і навукоўцы, грамадскія дзеячы.

Для шырокага кола чытачоў. — 18000 руб.

**2. Picarda Guy. Minsk: A Historical Guide. Мінск: гістарычны, культурны, бізнес-гід. 1994. — 356 с. (на анг. мове).**

Адна з першых кніг на ангельскай мове пра Рэспубліку Беларусь і яе сталіцу.

Для замежных наведнікаў краіны, студэнтаў ангельскіх аддзяленняў ВНУ і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй і сучасным станам Беларусі. — 12000 руб.

**3. "Курапаты": Артыкулы, навуковая справаздача, фотаздымкі (З. Пазняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў. 1994. — 184 с. (на бел. і анг. мовах).**

Зборнік з'яўляецца дакументальным сведчаннем злачынстваў сталінскага рэжыму ва ўрочышчы Курапаты паблізу Менска. Курапаты — першая з адкрытых у Беларусі мясцінаў, дзе знішчаліся ахвяры бальшавіцкіх рэпрэсій. Выданне багата ілюстраванае.

Для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі XX стагоддзя. — 10000 руб.

**4. Беларусь. Новая краіна ва Усходняй Еўропе Ул. Новік. 1994. — 68 с. (на анг., ням., франц. мовах).**

Сціслы нарыс аб гісторыі, дзяржаўным ладзе, эканоміцы і культуры Беларусі.

Для замежных наведнікаў краіны, нашых суайчыннікаў, якія наладжваюць справавыя і культурныя кантакты з замежнымі калегамі, а таксама для тых, хто вывучае ангельскую, нямецкую і французскую мовы. — 10000 руб.

**5. Грыб М. На гістарычным скрыжаванні. 1996. — 159 с. (на бел. мове).**

У кнізе Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання пададзены яго выступленні на міжнародных і нацыянальных форумах, артыкулы ў перыядычным друку, інтэрв'ю сродкам масавай інфармацыі. Яны прысвечаны актуальным праблемам дзяржаўнага будаўніцтва, рэфармавання эканомікі, замежнай і ўнутранай палітыкі дзяржавы, дзейнасці парламента, станаўлення шматпартыйнасці.

Вельмі цікавая і інтрыгучая кніга. Ужо гатовы наклад яе быў арыштаваны афіцыйнымі ўладамі амаль на месяц.

Для ўсіх, хто цікавіцца надзённымі пытаннямі развіцця нашай краіны. — 13000 руб.

6. **Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры "Незалежная прэса: свабода і адказнасць": Тэксты. Дакументы. Матэрыялы. 1996. — 549 с. (на бел. і анг. мовах).**

Кнігу складаюць матэрыялы арганізаванага Беларускім ПЭН-цэнтрам Другога міжнароднага кангрэса ў абарону дэмакратыі і культуры, які адбыўся ў Мінску 31 жніўня — 4 верасня 1995 года. Зборнік змяшчае выступленні ўсіх вядомых дзеячаў культуры Беларусі і замежжа, як Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Васіль Сёмуха, Генадзь Бураўкін, Вітаўт Кіпель, Алесь Разанаў, Юры Хадыка, Вера Рыч, Уладзімір Арлоў, Норберт Рандаў, Віталь Цыганкоў, Сакрат Яновіч, Зора Кіпель, Валянцін Грыцкевіч і інш.

Для шырокага кола чытачоў. — 20000 руб.

## СЕРЫЯ "БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ"

**1. Вініцкі А. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне 1939—1951 гадох. 1995. — 180 с. (на бел. мове).**

Унікальныя дакументы, сведчанні, факты з трагічнага лёсу тысяч нашых суайчыннікаў, што апынуліся ў гады Другой сусветнай вайны ў Нямеччыне.

Для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускага народа. — 15000 руб.

**2. Службоўнік. 1995. —380 с. (на бел. мове).**

Упершыню ў Беларусі перавыдадзены "Службоўнік" Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Змяшчае Святую літургію св. Яна Залатавуснага, Святую літургію св. Васіля Вялікага і Святую літургію Раней Асвечанай Ахвяры св. Рыгора Дваяслова, а таксама Абедніцу, асаблівасці пры архірэйскім служэнні і Велікодных службах. Друк кнігі трохколерны.

Для богаслужбовага ўжытку ў Беларускай Праваслаўнай Царкве. — 20000 руб.

**3. Беларускі праваслаўны малітоўнік. 1995. — 137 с. (на бел. мове).**

Кніга змяшчае больш за семдзесят малітваў, спевы, вынятки з Катэхізісу. Дабраславіў на трэцяе выданне на беларускай мове малітоўніка архіепіскап Мікалай, Першы Ярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Для богаслужбовага ўжытку. — 8000 руб.

## СЕРЫЯ БФС "АДКРЫТАЕ ГРАМАДСТВА"

**1. Лоўзі Дж. Гістарычныя ўводзіны ў філасофію навукі. 1995. — 328 с. (на бел. мове).**

У кнізе прасочваецца развіццё поглядаў на метадалогію навукі ад часоў старажытнай Грэцыі да нашых дзён. Вялікая ўвага аддаецца раскрыццю поглядаў сучасных метадолагаў навукі — К. Гемпеля, Р. Карнапа, В. Куайна, К. Попера, Т. Куна ды інш.

Для студэнтаў, аспірантаў і ўсіх, хто цікавіцца філасофіяй і гісторыяй навукі. — 12000 руб.

**2. Дапаможнік для журналістаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. 1995. — 176 с. (на бел. мове).**

Зборнік складаюць артыкулы тэарэтыкаў і практыкаў сучаснай амерыканскай журналістыкі, прысвечаныя такім важным аспектам журналісцкай працы, як збор інфармацыі і рэдагаванне газетных матэрыялаў, падрыхтоўка выпускаў тэле- і радыёнавін, заснаванне ўласнай газеты, арганізацыя рэкламнага сервісу і г.д.

Для рэпарцёраў, рэдактараў, фотакарэспандэнтаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца пытаннямі дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі. — 11000 руб.

**3. Брэтон Ф., Пру С. Выбух камунікацыі. 1995. — 336 с. (на бел. мове).**

Пераказваецца развіццё тэорыі і практыкі масавай інфармацыі і камунікацыі — ад зараджэння піктаграфічнага пісьма ў Месапатаміі да развіцця кампутарных сетак і электроннай пошты ў наш час.

Для спецыялістаў у галіне тэорыі і практыкі сродкаў масавай інфармацыі, аспірантаў і студэнтаў факультэтаў журналістыкі, ўсіх, хто цікавіцца праблемамі камунікацыі ў інфармацыйным грамадстве. — 12000 руб.

**4. Говард М. Сучасная культурная антрапалогія. 1996. — 478 с. (на бел. мове).**

У кнізе разглядаюцца сацыяльны, сімвалічны і матэрыяльны аспекты жыцця сучасных грамадстваў, якія складаюць адзіны сусветны арганізм і знаходзяцца ў няспынным развіцці. Асаблівая ўвага аддаецца пытанням знікнення малых супольнасцяў, адаптацыі людзей да чужой культуры, дэградацыі навакольнага асяроддзя.

Для студэнтаў і навукоўцаў рознага профілю — палітолагаў, этнографаў, лінгвістаў, гісторыкаў, правазнаўцаў, эканамістаў, сацыёлагаў, псіхолагаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца праблемамі сучаснасці. — 18000 руб.

**5. Бэрдшоў Дж. (пры ўдзеле Энды Роса) Эканоміка. Частка 1: Уводзіны. Мікраэканоміка — 560 с. (на бел. мове). Частка 2: Макраэканоміка. — 528 с. (на бел. мове, рыхтуецца да друку).**

Увазе чытача прапануецца навучальны дапаможнік па эканоміцы, які за даволі кароткі час ужо тройчы выдаваўся на мове арыгінала. Першую частку беларускай версіі складаюць "Уводзіны ў эканоміку" і "Мікраэканоміка", другую — "Макраэканоміка".

Даступны выклад матэрыялу і бліскучая (з гледзішча методыкі навучання) яго арганізацыя робяць гэтую кнігу незаменным дапаможнікам для студэнтаў і карысным для ўсіх зацікаўленых чытачоў.Цвёрдая вокладка — 40000 руб.

**6. Дэні А. Гісторыя эканамічнай думкі. — 736 с. (на бел. мове, рыхтуецца да друку).**

Кніга прысвечана пытанням і праблемам палітэканоміі, яе сувязям з філасофскімі вучэннямі, тлумачэнню сацыяльнай арганізацыі вытворчасці і яе эвалюцыі на працягу гісторыі — ад часоў старажытнай Грэцыі да нашых дзён. Разглядаюцца асобныя значныя філасофскія і эканамічныя вучэнні, што паўплывалі на развіццё заходняй думкі ў розных яе аспектах, а таксама сучасныя спрэчкі эканамістаў.

Для студэнтаў і аспірантаў вышэйшых навучальных устаноў эканамічнага накірунку, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй і сучасным станам і праблемамі эканамічнай навукі.

**7. Анталогія сучаснай палітычнай філасофіі./ Уклад. Я. Кіш. — 400 с. (на бел. мове, рыхтуецца да друку).**

Кніга ўяўляе сабой збор твораў выдатных палітычных філосафаў Захаду (І. Берліна, Р. Нозіка, Т. Нагеля, Дж. Роўлза ды інш.). Гэтыя творы прысвечаныя стасункам свабоды і роўнасці ў індустрыяльным грамадстве, праблемам справядлівасці, талерантнасці, палітычнай легітымнасці.

Для філосафаў, палітолагаў, сацыёлагаў, студэнтаў і выкладчыкаў гуманітарных ВНУ.

**8. Суінгвуд А. Сціслая гісторыя сацыялагічнай навукі. — 400с. (на бел. мове, рыхтуецца да друку).**

У кнізе сцісла, але вельмі змястоўна асвятляецца гісторыя сацыялагічнай думкі ад XVIII ст. да нашага часу. Аналізуюцца погляды на грамадства дзеячаў эпохі Асветніцтва, а таксама прадстаўнікоў класічнай і сучаснай сацыялогіі. Разглядаецца таксама стаўленне сацыёлагаў да актуальных праблем культуры.

Для студэнтаў і выкладчыкаў гуманітарных факультэтаў ВНУ, навукоўцаў у галіне сацыялогіі і філасофіі.

*Заказаць кнігі можна непасрэдна ў выдавецтве: 220007, г. Мінск, вул. Магілёўская, 43, офіс 210. Тэл: (0172) 27-19-40, тэл-факс: (0172) 21-77-40.*

*Форма аплаты любая.*

Пошта

# АЙЦЫ Ў РОЛІ КАМІСАРАЎ

Шэрыя, аднастайныя мае будні ў канцы лета нарэшце змяніліся на светлую, бадзёрыстую нядзелю. Такія нядзелі здараліся хіба што ў юнацтве або, часцей, у далёкім маленстве, калі поўніўся настроем святочна ўбраных аднавяскоўцаў, што цугам ішлі ў царкву ці вярталіся адтуль.

Царква-хатка ў засені дрэў і мураваныя вайсковыя казармы вакол шырачэзнага пляца. Стракатыя, квяцістыя апраткі набожных кабецін і суцэльна зялёныя мундзіры амаль пагалоўна дужых і суровых дзецюкоў. Бацюшка там, у вёсцы, і бацюшка тут... Згадванае і рэальнае параўноўваць было нязвыкла, нова, і ад гэтае навізны было нядзельна на душы. Упершыню я прыехаў да сына ў войска, на ягоную прысягу, і ўпершыню — у войска незалежнай Беларусі. Сама прысутнасць духоўнікаў надавала значнасці і ўзнёсласці дню.

Прысяга з вуснаў сыноў прагучала па-беларуску, страявая песня пад звонкі аркестр — таксама. Беларускія, не гучаннем, дык зместам, былі і вітальна-прызыўныя словы прадстаўніка ўлады, ветэрана дывізіі, сённяшніх камандзіраў і навабранцаў: служыць **свайму** народу, бараніць **сваю** Радзіму. Ні лішняй патэтыкі пры гэтым, ні палітыкі. Як людзям зямлі нашай і ўласціва. Як уласціва павінна быць Узброеным Сілам любой краіны. І я радаваўся за сына, за сяброў ягоных, шчымліва зайздросціў ім — я, хто некалі ў Расіі кляўся Савецкаму Саюзу і з благаслаўлення паліторганаў рыхтаваўся для адпраўкі ў Егіпет.

Святочнасць між тым патроху спадала. Знікаць яна пачала тады, як два дзябёлыя хлопцы ў чорных расах, семінарысты-старшакурснікі ці ўжо святары, узяліся абыходзіць шэрагі вояў, хрысціць і акрапляць іх асвечанаю вадой. Праваслаўны хрэст — на кожнага. Ці правільна гэта? Сярод нас жа, заходнікаў, так многа каталікоў, пратэстантаў, уніятаў, іудаістаў... Што ж, няхай, не вялікі грэх, думалася мне, бо, урэшце, усякае добрае благаславенне — святасць.

Добра! Спяшаўся, хацеў так думаць.

Праваслаўны айцец Міхаіл з двума дзябёлымі сваімі памочнікамі быў запрошаны на дзень прысягі ў гэтую гвардзейскую дывізію з поўным правам: калісьці ён праходзіў тут вайсковую службу, пра што з гонарам і паведаў. Невысокага росту, але ладны, падцягнуты, стаяў ён на вялікай трыбуне перад пляцам і ўпэўнена прамаўляў сваё благаславенне новаму пакаленню вояў. Якое ж да прыкрасці дзіўнае было гэтае казанне! Патэтычнае, афіцыёзнае, запалітызаванае. Чаго сцураліся ў сваіх прамовах самыя высокія вайсковыя і свецкія чыны, тое да рубоў напоўніла казанне святара. Тут і слаўныя-пераслаўныя старонкі расійскай гісторыі, і знакамітыя імёны змагароў за Русь і Масковію, у тым ліку тых, што з пераменным поспехам біліся з нашымі старажытнымі продкамі, і заклік як зрэнку вока сцерагчы славянскія (у адназначна вядомых межах) землі, якім нібыта пагражаюць цёмныя нацыяналістычныя сілы. І ані слова пра ахову і магчымую абарону **сваёй** Айчыны! Сутнасць прысягі, яе патрыятычны змест і пафас перад шэрагамі тых, хто яе толькі што прыняў, зводзіліся не да нуля, а да мінуса. Як і дэмакратычны прынцып — армія па-за палітыкай, па-за грамадзянскімі войнамі.

А ўвогуле, мне зразумела, чыю палітыку і з якой мэтаю прапаведваў айцец Міхаіл, прапаведвалі мо дзесяткі (дай Бог памыліцца) іншых святароў у іншых дывізіях і брыгадах. Дакладна ведаю, што ідэалагічная ніша ў нас ніколі не паражнела, займалі яе і палітработнікі, і царкоўныя služкі, сыходзячыся на вялікадзяржаўнай, антынацыянальнай ідэі. З гэтым даўно звыкся. Адно не звыкнуся з трывогаю — каб беларускія хлопцы зноў не задавалі сабе клятых пытанняў: як сталася, што блізкі сябар вярнуўся з тэрміновай службы праз паўгода, пакалечаны ў вулічных сутычках з дэманстрантамі? Чаму "родныя рубяжы" мусова ахоўваць на берагах Ніла, на вуліцах Прагі, у гарах Афганістана?..

**Алесь КАСКО**

